● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

18 лютага 1998 г. серада, № 36 (23387)



# ЗВЯЗДА

## ЗДАРЭННІ

### Трагедыя на рыбалцы

**Палавіць у адлігу рыбу вырашылі пенсіянер з Кобрына і нідзе не працуючы жыхар гэтага ж горада. З гэтай мэтай яны і адправіліся ў вёску Повіць на вадасховішча «Травы». Ведалі б яны, чым закончыцца гэтае мерапрыемства...**

Лёд не вытрымаў вагі двух дарослых мужчын і праламаўся. На жаль, самастойна выбрацца з вады рыбакі не змаглі. Рыбалка закончылася трагедыяй — людзі патанулі.

У гэты ж дзень у Талачынскай райбальніцы памёр вучань шостага класа, 12-гадовы хлопчык. Ад кулявога ранення ў галаву. Паводле папярэдняй інфармацыі, да трагедыі прывялі «забавы» яго аднавяскоўца, жыхара вёскі Жукнёва. Дзесьці раздабыўшы самаробную зброю, 19-гадовы хлопец вырашыў апрабаваць яе. Неасцярожнае абыходжанне з агнястрэльнай зброяй, як відаць, каштавала жыцця дзіцяці. Зараз міліцыя высвятляе, якім чынам у нідзе не працуючага вяскоўца аказалася ў руках небяспечная «цацка».

Ігар ГРЫШЫН.

## КРЫМІНАЛ

### СА СМЯРОТНЫМ ЗЫХОДАМ

Тры чалавекі дасталены ў рэанімацыю, а адзін памёр. Такі вынік дарожна-транспартнага здарэння, што адбылося на адной з вуліц у Гродне. А здарылася гэта таму, што ўладальнік аўтамабіля даверыў руль знаёмай, якая не мела ні навыкаў ваджэння, ні, зразумела, адпаведнага пасведчання. Разгубіўшыся, тая не змагла ўтрымаць машыну на праезнай частцы вуліцы, выехала на тралейбусны прыпынак і наехала на пасажыраў, якія чакалі транспарту. Дарэчы, вадзіцель, які перадаў руль, у момант аварыі знаходзіўся ў салоне аўтамабіля, аднак прадухіліць наезд не паспеў.

Трагічна закончылася дарожнае здарэнне і на ўчастку аўтамагістралі Гродна—Мінск, які знаходзіцца на тэрыторыі Іўеўскага раёна. Вадзіцель, які ехаў вечарам у цемнаце на машыне замежнай вытворчасці, на поўным ходу ўрэзаўся ў 24-гадовых мужа і жонку, якія штурхалі па шашы аўтамабіль свайго знаёмага, бо ў машыне закончылася гаручае. Муж памёр на месцы, а жонка знаходзіцца ў бальніцы.

Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.

### МІЛІЦЫЯ ШУКАЕ «ЖАРТАЎНІКА», ЯКІ ПАВЕДАМІЎ АБ ЗАМІНІРАВАННІ ГУМа

Да позняга вечара 16 лютага працягваліся пошукі выбухоўкі ўстройства ў магілёўскім ГУМе. Пасля 16 гадзін у міліцыю пазваніў невядомы і паведаміў аб замініраванні універмага. Вартавыя парадку аператыўна прыступілі да эвакуацыі людзей, а хутка пад'ехалі і сапёры.

Як і трэба было чакаць, поспеху гэтыя пошукі не мелі. А вось чарговага «жартаўніка» будуць шукаць.

Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ, БелаПАН.



## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

# «У НАШАГА СПОРТУ ЯШЧЭ ЎСЁ НАПЕРАДЗЕ»

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які знаходзіцца ў Нагана, даў інтэрв'ю беларускім журналістам, акрэдытаваным на зімовай Алімпіядзе-98.**

— Тут, у Японіі, дзякуючы дакладнай рабоце памочнікаў і журналістаў, я штодзённа атрымліваю поўную інфармацыю аб падзеях, што адбываюцца ў Беларусі і ва ўсім свеце, — сказаў А.Лукашэнка.

Адказваючы на пытанне аб выступленні беларускіх алімпійцаў у Нагана, у прыватнасці, аб гульні хакейнай зборнай супраць грандаў сусветнага хакея, прэзідэнт адзначыў, што ведаў, як складана прыйдзецца нашым хлопцам у матчах са зборнымі Канады і ЗША, складзенымі з ігракоў мацнейшай сусветнай лігі — паўночнаамерыканскай Нацыянальнай хакейнай лігі (НХЛ).

«У час тэлерэпартажу з першага матча з канадцамі я сказаў нашым гледачам, каб яны не патрабавалі ад нашых ігракоў вельмі многага. Справа ў тым, што, вышэйшы ў васьмёрку мацнейшых каманд свету, яны ўжо выканалі задачу-мінімум, — падкрэсліў кіраўнік беларускай дзяржавы. — Прычым менавіта ў сувязі з бліскучай гульнёй нашых хакеістаў усе гавораць, што беларусы — малайцы!» Аляксандр Лукашэнка сказаў, што, сустракаючыся з ігракамі і трэнерамі, ён папрасіў іх гуляць спакойна і выглядаць дастойна.

«На жаль, нам пакуль яшчэ не пад сілу цягацца з той хакейнай машынай, якую ўяўляюць сабой хакейныя гранды, — заўважыў кіраўнік дзяржавы. — У іх хакей — гэта цэлая індустрыя. Мы толькі вучымся, набіраемся вопыту. У гэтым працэсе будзе і цяжка, і балюча».

Паводле слоў Аляксандра Лукашэнкі, у гутарцы з трэнерамі нашай хакейнай дружыны ён сказаў, што ўсе просьбы па ўтрыманню каманды будуць выкананы поўнасцю. «Для хлопцаў мы зробім усё, што яны папросяць», — падкрэсліў прэзідэнт.

Гаворачы аб далейшых перспектывах нашых спартсменаў у Нагана, А.Лукашэнка сказаў: «Знаходзячыся ў Нагана, я ўжо больш перажываю не за тое, як выступяць нашы спартсмены. У прынцыпе, я ведаю, што могуць пазмагацца за медалі нашы біятланісты, але гэта не так важна — узровень беларускага біятлона і так высокі. Я больш перажываю за нашых людзей, якія балеюць за беларускіх спартсменаў. Зразумела, што, не ведаючы ўнутранай алімпійскай «кухні», усе вельмі балеюць за нашых алімпійцаў. Аднак я вельмі прасіў бы балельшчыкаў не засмучацца з-за магчымых пройгрышаў — у нас яшчэ ўсё наперадзе. Мы яшчэ настолькі маладыя як дзяржава, і гэта я адчуў тут, што нам няма чаго дакараць ні сябе, ні спартсменаў, якія тут выступаюць. Я хацеў бы сказаць усім аматарам спорту на Радзіме, што нашы спартсмены зрабілі вельмі многа для ўзняцця прэстыжу краіны ў свеце. Адчуць гэта можна толькі тут, на спартыўных арэнах. А далей ужо наша справа, як мы выкарыстаем атрыманы тут вопыт. Разумею, што ў многім гэта залежыць і ад мяне як прэзідэнта краіны, і ад беларускага народа, які разумее значнасць спорту ў сучасным свеце».

БЕЛТА.

### Паважаныя чытачы!



**19 лютага гэтага года з 14 да 15 гадзін па тэлефонах 232-38-21, 232-38-92 вы можаце задаць свае пытанні міністру культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандру САСНОЎСКАМУ.**

Тыя, хто хоча загадзя перадаць сваё пытанне міністру, тэлефануйце па нумары 268-29-42 у аддзел культуры газеты «Звязда» або пішыце на адрас рэдакцыі.

**«Звязда» праводзіць «прамую лінію» з міністрам аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Ігарам Барысавічам ЗЕЛЯНКЕВІЧАМ.**



Тэлефануйце 19 лютага з 11 да 12 гадзін па тэлефонах рэдакцыі:
**(8-017) 232-38-21; 232-38-92.**

Папярэдне чакаем вашых званкоў па тэлефоне **(8-017) 268-28-14** і пісьмовых допісаў на адрас рэдакцыі «Звязды».



**Работніцы ўчастка абпальвання З. Шыла, М. Калаур, Н. Майсюк, І. Клімовіч, Л. Дашчэчка, Т. Ушчокіна, Л. Рэпнікава.**

**НЯШМАТ сёння ў прамысловай вытворчасці нашай маладой суверэннай дзяржавы калектываў, пра якія, як казалі зусім нядаўна, ідзе пагалоска. Не той час, а калі дакладней — няма зараз наогул чым хваліцца пераважнай большасці вытворчых падраздзяленняў. Аднаму не хапае рынкаў збыту прадукцыі, другому — камплектуючых дэталяў і вузлоў, трэцяму — абаротных сродкаў, чацвёртаму — і таго, і другога, і трэцяга разам... Ды ці мала каму што патрэбна!**

Тым не менш, даволі шмат у нашай рэспубліцы прадпрыемстваў, што працуюць больш-менш зладжана, без яўных правалаў і збояў у працоўным рэжыме. Здараюцца і ў іх так званыя вымушаныя прастоі, сяго-таго іншым разам таксама нестае. Аднак яны знаходзяць выйсце са складаных сітуацый, падтрымліваюць рабочы рытм, больш таго — нават павялічваюць вытворча-эканамічныя паказчыкі, запускаюць у вытворчасць новыя віды прадукцыі...



***Адно з такіх вытворчых падраздзяленняў — калектыў барысаўскага завода «Чырвоны металіст». Пазнаёмцеся з ім бліжэй.***

*Гл. 6-ю стар.*

## XVIII зімовыя Алімпійскія гульні



### Густы снег перабіў старты біятланістаў

**Учарашні дзень на Алімпійскіх гульнях у Нагана быў для нас, як і многія папярэднія, «халастым». У ніводнай з шасці дысцыплін, у якіх разыгрываліся ўзнагароды, беларусы не ўздзельнічалі.**

Адзіная надзея была на спрынтэрскую гонку на 10 км мужчын-біятланістаў. Праўда, густы снег не дазволіў спартсменам прайсці гэтую дыстанцыю паўнацэнна, бо часам нават цяжка было ўбачыць мішэнь. Арганізатары турніру вырашылі не звязваць напрамую лёс спартсменаў з капрызамі надвор'я і спынілі гонку, папярэдне перанёсшы яе на сённяшні дзень.

Сёння ж раніцай у 7.45 па беларускаму часу хакейныя балельшчыкі змогуць убачыць прамую трансляцыю чвэрцьфінальнага хакейнага матча паміж зборнымі Расіі і Беларусі.

**ВЫНІКІ МІНУЛАГА ДНЯ СПАБОРНІЦТВАЎ**

***Канькабежны спорт. 1000 м (м)***

1. Джыані Роме (Галандыя)
2. Боб дэ Ёнг (Галандыя)
3. Рынцье Рытсма (Галандыя)

***Гарналыжны спорт. Камбінацыя-слалам (ж)***

1. Каця Зайцынгер (Германія)
2. Марціна Эртл (Германія)
3. Хілдэ Герг (Германія)

***Скачкі з трампліна. 120 м. Камандныя спаборніцтвы (м)***

1. Японія
2. Германія
3. Аўстрыя

***Хакей (ж)***

Матч за 1-е месца: Канада — ЗША — 1:3. Матч за 3-е месца: Фінляндыя — Кітай — 4:1.

1. ЗША
2. Канада
3. Фінляндыя

***Шорт-трэк 1000 м (м)***

1. Кім Донг-Сунг (Карэя)
2. Лі Джаюн (Кітай)
3. Эрык Бедард (Канада)

***Шорт-трэк. Эстафета. 3000 м (ж)***

1. Карэя
2. Кітай
3. Канада.

Уладзімір ЗДАНОВІЧ.

*(Заканчэнне на 4-й стар.)*

## ТОЛЬКІ ФАКТ

З 1991 года **прыватызацыі і раздзяржаўленню** ў Беларусі падвергнута амаль 2500 прадпрыемстваў рэспубліканскай і камунальнай уласнасці.

●

Штогод у рэспубліцы **робіцца** каля 100 тысяч абортаў.

●

За апошнія пяць гадоў **прафесіянальная захворваемасць** у краіне вырасла ў паўтара раза.

●

Паводле экспертных ацэнак МУС, **нелегальных мігрантаў**, якія выкарыстоўваюць Беларусь як своеасаблівы трамплін у Заходнюю Еўропу, налічваецца звыш 100 тысяч.

●

Летась у краіне адбылося **15.266 пажараў**, у агні загінулі 772 чалавекі, у тым ліку 57 дзяцей.

## БЕЛАРУСЫ ЎДЗЯЧНЫЯ ТЫМ, ХТО ПРЫХОДЗІЦЬ ДА ІХ З ДАБРОМ

Больш за 12 гадоў супрацоўнічае з Беларускім экзархатам мітрапаліт Швейцарскі Дамаскін, Экзарх Усяленскага Патрыярха ў Еўропе. Неаднаразова ён прыязджаў у нашу краіну з гуманітарнай дапамогай для людзей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. 17 лютага свяшчэннаслужыцеля прыняў кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта краіны Міхаіл Мясніковіч. Ён падзякаваў мітрапаліту за добрыя адносіны да беларусаў і павіншаваў яго з нядаўна атрыманым званнем ганаровага доктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

У гутарцы з госцем Міхаіл Мясніковіч падкрэсліў, што паміж кіраўніцтвам краіны і праваслаўнай канфесіяй, якая ахоплівае амаль 80 працэнтаў вернікаў, склаліся добразычлівыя адносіны. Вялікай павагай у прэзідэнта, урада і парламента карыстаецца мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## Беларуская дэлегацыя вылятае ў Ірак

Як паведаміў старшыня Ліберальна-дэмакратычнай партыі Беларусі Сяргей Гайдукевіч, на 14 гадзін 19 лютага намечаны вылет з Масквы беларускай дэлегацыі ў Ірак. Яна паляціць рэйсам Іарданскай авіякампаніі праз Аман, а далей да Багдада — ужо на машынах. Папярэдняя колькасць гэтай групы — не менш дзесяці асоб, хаця агульны спіс жадаючых — 44 чалавекі. У дэлегацыю ўваходзяць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, члены Таварыства беларуска-іракскай дружбы, прадстаўнікі СМІ. Акрамя самога С. Гайдукевіча, які з'яўляецца кіраўніком дэлегацыі, паляцяць дэпутаты В. Драко, старшыня нядаўна створанага Таварыства беларуска-іракскай дружбы, і І. Катляроў.

— Візы ў нас адкрытыя, дазвол ад камітэта па эмбарга атрыманы. Плануецца два этапы нашай місіі, спачатку першая дэлегацыя вылятае, а потым, калі спатрэбіцца, то і другая. Гуманітарны груз будзе накіраваны пазней, кантэйнерам наземным шляхам праз Балгарыю і Турцыю, як гэта дазволена санкцыямі ААН,— падкрэсліў С. Гайдукевіч.

Нядаўна з падобнай паездкай, але з гучнымі скандаламі, у Іраку пабывала дэлегацыя Дзярждумы Расіі на чале з лідэрам ЛДПР У. Жырыноўскім. С. Гайдукевіч не звязвае сваю місію з паездкай ЛДПР і зазначае, што ім усё зроблена «дакладна па закону, без усякіх шумавых эфектаў».

— Мы ідзём законным шляхам, мы выканалі ўсе ўмовы, якія патрабуюцца рэзалюцыяй ААН. А Уладзімір Вольфавіч, канешне, малайчына, ён паслядоўна адстойвае свае мэты. Я не магу сказаць, што гэтая наша акцыя як бы ў падтрымку місіі Жырыноўскага, бо ў нас партыя Рэспублікі Беларусь, суверэннай дзяржавы. Зразумела, што з ЛДПР у нас добрыя адносіны, таксама як і з камуністычнай партыяй Зюганава, таксама як з «Наш дом — Расія»,— падкрэсліў С. Гайдукевіч, тым самым дыстанцыраваўшыся ад нядаўніх скандалаў Жырыноўскага.

— Мы адназначна выступаем за дыпламатычнае ўрэгуляванне гэтага канфлікту,— заявіў С. Гайдукевіч.

— А колькі каштуе такая паездка і хто аплачвае?

— Колькі каштуе, я не ведаю, а аплачваюць беларускія спонсары. Асабіста ў мяне такіх грошай няма, — адказаў лідэр беларускіх ліберал-дэмакратаў. Гуманітарны груз, медыкаменты і харчаванне, па словах Гайдукевіча, таксама сабраны беларускімі прадпрымальнікамі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## Прэс-цэнтр пры МУС паведамляе

У сувязі з уступленнем у дзеянне Закона Рэспублікі Польшча аб іншаземцах адбыліся некаторыя змяненні парадку ўезду ў гэтую краіну грамадзян Рэспублікі Беларусь. Нягледзячы на тое, што ўезд у Рэспубліку Польшча для грамадзян Рэспублікі Беларусь застаўся бязвізавым, павысіліся патрабаванні да дакументаў, якія даюць права на перасячэнне польскай граніцы.

Як паведаміў у прэс-цэнтр намеснік начальніка ўпраўлення пашпартна-візавай службы МУС Валерый Казлоўскі, уезд грамадзян Беларусі ў Польшчу адбываецца:

**па прыватных справах** — на падставе запрашэнняў новага ўзору, завераных у ваяводствах па месцы запрашэння. Пры гэтым да 27 снежня 1998 года дзейнічаюць запрашэнні старога ўзору, зарэгістраваныя ў адпаведных установах ваяводстваў;

**з мэтай турызму** — на падставе ваўчэра ўстаноўленага ўзору, у якім пацверджана аплата гасцінічных і іншых турыстычных паслуг у Польшчы;

**па службовых справах** — на падставе адзнакі «АВ-службовая», што маецца ў пашпарце таго, хто выязджае, і персанальнага запрашэння ад юрыдычнай асобы Рэспублікі Польшча аб неабходнасці паездкі па службовых справах.

Штамп «АВ-службовая» праастаўляецца ў дакументы для выезду за мяжу:

— вадзіцеляў, якія ажыццяўляюць міжнародныя перавозкі грузаў, — па замове Беларускай асацыяцыі міжнародных аўтамабільных перавозчыкаў;

— членаў цягніковых брыгад, якія ажыццяўляюць міжнародныя пасажырскія перавозкі, — па замове ўпраўлення Беларускай чыгункі;

— спартсменаў — членаў алімпійскай і нацыянальнай зборных каманд Рэспублікі Беларусь па замове Міністэрства спорту і турызму.

У астатніх выпадках, акрамя замовы, неабходна выпатрабаваць арыгінал і копію персанальнага запрашэння ад арганізацыі ці фірмы Рэспублікі Польшча.

**Віктар ПАТАПЕНКА,**
**начальнік прэс-цэнтра МУС Рэспублікі Беларусь.**

## ПАСТРАЛЯЎ...

**Бухгалтарка аднаго з прыватных прадпрыемстваў Гомеля сядзела ў сваёй кватэры за сталом, калі пачуўся звон разбітай шыбы. Жанчына думала, што гэта хлапчукі-падшыванцы кінулі ў акно камень, але калі ўважліва прыгледзелася да шыбы, дык жахнулася: Божухна, яўны след ад кулі. Сумненняў няма — замах на яе жыццё! Бухгалтарка тут жа пазваніла па тэлефоне ў міліцыю. Работнікі яе марудзіць не сталі і тут жа ўзяліся за справу.**

Праз некалькі хвілін яны зайшлі ў кватэру дома, што стаяў насупраць таго, дзе жыла бухгалтарка і з туалета выкурылі гаспадара, які туды схаваўся. Аднеквацца ён не стаў і тут жа аддаў міліцыянерам самаробны пісталет, дзесяць патронаў да яго і дзевяць пустых гільзаў. А потым заявіў, што пісталет купіў для таго, каб яму, прадпрымальніку, было што паказаць тым, хто патрабуе ад яго грошы за «дах» на рынку. А каб навучыцца страляць, а дванаццатай гадзіне выйшаў на балкон і... Супраць бухгалтаркі, якую наогул не ведаў, нічога не мае, у яе акно трапіў выпадкова.

Няўдалы стралок зараз дае паказанні следчым.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ТРАГЕДЫЯ, ЯКАЯ СКАЛАНУЛА ЛІТВУ

Страшнае няшчасце здарылася 16 лютага ў невялікай вёсачцы Драчай Шырвінтаскага раёна. Яе жыхар Леанардас Завасцінавічус расстраляў з паляўнічай стрэльбы амаль усіх аднавяскоўцаў — 8 сваіх суседзяў ён забіў, а двух цяжка параніў. Тры жыхары вёскі, якія засталіся ў жывых, самі змаглі абяззброіць раз'юшанага «паляўнічага» і лінчавалі яго. Па расследаванню звязаных з гэтай трагедыяй акалічнасцяў створаны ўрадавая камісія і спецыяльная група пракурораў.

Трагедыя ў маленькай вёсачцы скаланула ўсю Літву. Але гэта не адзінае з буйных злачынстваў, учыненых у краіне ў апошнія дні.

У Каўнасе 15 лютага быў узарваны салон прыгажосці Іаланты Чапене (крыху раней у Шаўляі прагрымеў выбух ля магазіна яе маці). Іаланта Чапене — удава забітага ў 1996 годзе начальніка Каўнаскага штаба добраахвотнікаў, супрацоўніка Дэпартамента дзяржаўнай бяспекі Сігітаса Чапаса.

14 лютага на дарозе Каўнас—Клайпеда быў абрабаваны трэйлер, што перавозіў чатыры новыя джыпы, цана якіх — амаль 300 тысяч долараў. Паліцыі ўдалося адбіць толькі джыпы. Бандыты ўцяклі ў лес, і да гэтага часу невядома ні месца, дзе яны хаваюцца, ні іх далейшыя намеры.

16 лютага пажар практычна знішчыў нарвежскі карабель, які стаіць на рамонце ў Клайпедзе, а другому судну, дацкаму, прыйшлося тэрмінова вярнуцца ў Клайпедскі порт таксама з-за пажару, які ўзнік ужо ў моры.

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БЕЛТА.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.24 | 17.24 | 10.00 |
| Віцебск – | 7.17 | 17.11 | 9.54 |
| Магілёў – | 7.13 | 17.13 | 10.00 |
| Гомель – | 7.07 | 17.14 | 10.07 |
| Гродна – | 7.38 | 17.40 | 10.02 |
| Брэст – | 7.35 | 17.44 | 10.09 |

### МЕСЯЦ

**Апошняя квадра 19 лютага**

**З 1.16 — 21-ыя месяцавыя суткі**

**Месяц — у сузор'і Скарпіёна**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Агафіі, Феадосія**
**К. Сымона, Канстанцыі**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, часам снег, мокры снег, па захаду магчымы дождж, месцамі на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 4—6, Гомелі — 3—5, Мінску — 2—4 градусы марозу, Брэсце і Гродне — 0—2 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак месцамі невялікія ападкі, туман, вецер заходні, умераны. Тэмпература ўначы — мінус 2 — плюс 3, удзень — 2–7, па паўднёваму захаду рэспублікі да 10 градусаў вышэй нуля.

## На другім паверсе ў Малінаўку

**Жыхары сталічнага мікрараёна Малінаўка цяпер маюць магчымасць дабрацца на месца працы хутчэй, чым на звычайным аўтобусе і танней, чым на маршрутным таксі.**

З нядаўняга часу туды стаў хадзіць двухпавярховы аўтобус, які мае экспрэсны маршрут. На другім паверсе з ветрыкам да Малінаўкі цяпер можна даімчаць, заплаціўшы 5 тысяч рублёў.

Гаспадаром гэтай транспартнай экзотыкі з'яўляецца ААТ «Міндаўг», якое арганізавала ў свой час рух маршрутных таксі ў сталіцы.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**









## Старонка Паўла Глобы

### 19 лютага, чацвер

**РЭКАМЕНДАЦЫІ**. У гэты дзень нельга перанапружвацца і актыўнічаць. Спрыяльны час для адпачынку і расслаблення. Удалы перыяд для выкладчыцкай дзейнасці і перадачы інфармацыі. Прысвяціце дзень сваім дзецям, схадзіце разам з імі ў тэатр ці на прагулку, пагаварыце з імі, падзяліцеся сваімі ведамі і вопытам. Добра ўстанаўліваць узаемасувязі паміж людзьмі, дапамагаць іншым. Запрасіце да сябе сяброў ці самі схадзіце ў госці. Праяўляйце шчодрасць, не сварыцеся і не павышайце голасу. Сёння нельга нічым апаганьваць ваду, таму проціпаказаныя мыццё бялізны і вільготная ўборка кватэры. Больш піце вадкасці. Карыснае абмыванне халоднай вадой. Рэкамендуецца не галадаць, ешце больш расліннай ежы.

**АДЗЕННЕ**. Прытрымлівайцеся серабрыста-блакітных тонаў. Не рэкамендуюцца чорны і ўсе яркія колеры.

**ПРЫМЕТЫ**. Быць выпадкова аблітым вадой — да вызвалення ад хвароб. Калі вы мыецеся і раптам адключылі ваду, ці ў вас паявілася сухасць у роце, — папярэджанне аб зняцці абароны, вам за ўсе вашы ўчынкі давядзецца адказваць. Посуд б'ецца ў гэты дзень да разарэння ці хваробы.

**СНЫ**. Бачыць птушак — знак таго, што хутка атрымаеце добрую вестку. Плаваць у чыстай вадзе — да ўдачы. Каламутная вада — да хваробы.

**МЕДЫЦЫНА**. Спрыяльны час для лячэння, прыгатавання і набыцця лекаў. Слабыя бёдры, ніжняя частка пазваночніка, печань, жоўцевы пузыр і палавыя органы. Добра лячыць горла, шыю і лёгкія.

**Падрыхтавана да друку спецыяльна для «Звязды» астралагічным цэнтрам «АРБА».**

## «ПАДДОСЛЕДНЫЯ» ЗЛАДЗЕІ

**14 трусоў украдзены ў нядзелю з лабараторыі ветэрынарнай станцыі Светлагорскага раёна.**

Як вядома, у такіх установах трусы, мышы, пацукі і іншыя жывёлы ўтрымліваюцца для пэўных мэтаў. Пацвердзіў гэта і галоўны ўрач станцыі Ігар Лявончанка. Праўда, Ігар Васільевіч сказаў, што ўкрадзеныя трусы не з'яўляюцца небяспечнымі для аматараў смажаніны. Хоць з іншых крыніц карэспандэнту БЕЛТА паведамілі, што звяркі былі заражаны туберкулёзам. Так гэта ці не, а красці ўсё роўна грэх.

**Віктар КОТАЎ, БЕЛТА.**

*ПЫТАЛЬНІК*

## Перыяд для вылічэння заробку: выбар за вамі

***Хутка выходзіць на пенсію, аднак атрымаць адпаведныя дакументы з будаўнічых арганізацый Літвы, дзе давялося прапрацаваць з 1985 па 1990 гады, зараз практычна немагчыма. У сувязі з гэтым пытанне: ці можна для налічэння пенсіі ўзяць заробкі за апошнія 5 гадоў працы ў калгасе, у якім працую з 1990 года?***

**Мікалай Аляксандравіч ТАТУР**, *Капыльскі раён.*

У аддзеле аховы працы Федэрацыі прафсаюзаў, куды мы вырашылі звярнуцца за тлумачэннямі, нагадалі, што згодна з 57 артыкулам Закона «Аб пенсійным забеспячэнні» пенсія па ўзросту вылічваецца з сярэднемесячнага фактычнага заробку за любыя 5 гадоў запар (па выбару звярнуўшагася) з 15 апошніх гадоў працы незалежна ад таго, былі перапынкі ў стажы ці не. Такім чынам, Мікалай Аляксандравіч, сумненняў быць не можа — калі ёсць такое жаданне, то для прызначэння пенсіі па ўзросту Вам вылічаць сярэднемесячны заробак за 5-гадовы перыяд працы ў калгасе пасля 1990 года.

Застаецца хіба што дадаць, што сярэднемесячны заробак за 5 гадоў вызначаецца шляхам падзелу агульнай сумы заробку за 60 каляндарных месяцаў працы запар (у межах апошніх 15-ці гадоў работы) на шэсцьдзесят.

**Сяргей ГРЫБ.**

## Бяда — няма для коніка падкоў

***З дзяцінства люблю коней. І зараз, у 36 гадоў, трымаю каня. У вёсцы, дзе жыве маці, коней таксама шмат. Ды вось бяда: ездзячы па цвёрдых дарогах, коні вельмі падбіваюць ногі. А кавалёў, якія б умелі зрабіць падкову, у нас няма. Калі ласка падкажыце, ці ёсць у нашай рэспубліцы прадпрыемства ці які кааператыў, дзе можна было б набыць падковы, іншыя рэчы для гужавога транспарту.***

**Іван Віктаровіч,** *г. Лунінец.*

— Гэта першае падобнае пытанне за пяць гадоў маёй работы, — шчыра здзівіўся запыту рэдакцыі намеснік дырэктара Рэспубліканскага аб'яднання «Беларграснаб» Анатоль Тоўшан. — Ведаеце, усё механізавалі...

І ўсё ж з дапамогай галоўнага інжынера ўпраўлення будматэрыялаў і гаспадарчых тавараў аб'яднання Руфіны Вячорка адказ на гэтае складанае пытанне мы знайшлі. Сапраўды, у нашай краіне вытворчасцю падкоў не займаецца ніводнае прадпрыемства. Некалькі разоў спрабавалі, але — не атрымалася, бо няма патрэбнага абсталявання і ўмоў (патрэбна гарачая коўка).

— І Беларусь, і іншыя краіны ці не ўсяго былога Саюза закупляюць падковы ў горадзе Бор Ніжагародскай вобласці, дзе іх вытворчасцю займаецца ВА труб і метызаў, — гаворыць Руфіна Дзмітрыеўна. — У нас рэалізацыяй падкоў, як, дарэчы, і іншых рэчаў для гужавога транспарту, займаецца мінская вытворча-камерцыйная фірма «Белая грыва», якая знаходзіцца па адрасу: вул. Сацыялістычная, 18А (тэл. 243-91-28). Зараз у продажы ёсць падковы толькі вялікіх памераў — № 4 і № 5. Праўда, іх засталося няшмат, але ў бліжэйшы час чакаецца новая партыя гэтага тавару. На сённяшні дзень кошт адной падковы складае 90 тысяч рублёў.

## Адгукніся, партызанскі камандзір

***Падкажыце, дзе знаходзіцца архіў колішніх партызанскіх зон. Я хацеў бы знайсці камандзіра і камісара партызанскага руху, з якімі быў разам у вайну ў Рудабелкаўскай партызанскай зоне.***

**Іван ДЗІКУН,** *в. Зубарэвічы Глускага раёна.*

Каб адшукаць сваіх баявых таварышаў, вам трэба звярнуцца ў Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, гэта можна зрабіць і пісьмова. Напішыце заяву, дзе выкладзіце сутнасць сваёй просьбы ці пытання, а таксама як мага больш падрабязна паведаміце ўсё, што вы ведаеце ці памятаеце аб людзях, якіх хацелі б адшукаць: імёны, прозвішчы, званні, месцы, даты і г. д. На працягу месяца, а магчыма і раней, як паведаміў рэдакцыі дырэктар Нацыянальнага архіва РБ Вячаслаў Селяменеў, вам павінны адказаць. Уся працэдура бясплатная. Заяву трэба накіраваць па адрасу: 220030, г. Мінск, вул. Кірава. 43, Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь.

*Рэпарцёр атрымаў заданне...*

# ...пагандляваць газетамі на вуліцы

***Гэтых жанчын, найчасцей пенсіянерак (моладзь, як і мужчыны, сустракаецца нашмат радзей), мы ўжо даўно прызвычаіліся бачыць у самых розных месцах: у пераходах, непадалёку ад станцый метро, на аўтобусных прыпынках, у якіх-небудзь закутках побач з магазінамі. Многія з іх нясуць сваю «вахту» некалькі дзён на тыдзень, хтосьці з'яўляецца на сваім пасту толькі раз у сем дзён, але заўсёды іх праца доўжыцца амаль як працоўная змена — і ў спёку, і дождж, і ў маразы. Іх занятак гаворыць сам за сябе, красамоўна прыцягваючы ўвагу лепш за ўсе словы раскладзеным, а часцей — трымаемым у руках таварам. Так, яны — вулічныя гандляркі газетамі.***

Гэты бізнес, бадай, не нашмат маладзейшы за цыгарэтны; праўда, «першапраходцамі» тут былі жвавыя юнакі і дзяўчаты, якія на пачатку 90-х распаўсюджвалі газеты «СПІД-інфо», «Двое» і іншыя таго ж эратычна-крымінальнага накірунку. Як падаецца асабіста мне, за тым першым вопытам вулічнага гандлю стаяла не столькі жаданне падзарабіць нешта да студэнцкай стыпендыі, колькі магчымасць паўдзельнічаць хаця б на такім узроўні ў працэсе змены светапогляду — свайго і іншых... Часы змяніліся, і цяперашнія студэнты аддаюць перавагу іншым, больш грашовым, спосабам падзарабіць на жыццё. Месца ж учарашніх рамантыкаў-дзяцей занялі іх бацькі. Вядома, не ад добрага жыцця. Гэтых людзей штурхае на вуліцу ў прамым сэнсе слова адзінае прагматычнае жаданне — зарабіць хоць крыху да сваёй пенсіі.

...Гэтых дзвюх жанчын я выбраў для размовы выпадкова. На іх месцы маглі аказацца іх равесніцы з суседняй вуліцы, з іншага раёна. Але, цалкам упэўнены, былі б іншымі толькі прозвішчы, а гісторыя жыцця была б той жа. Таму ці варта называць канкрэтныя імёны, тым больш што мае суразмоўцы напрамілы Бог прасілі гэтага не рабіць. Чаму?

Жанчыны не хаваюць, што іх палохае любы цень. Міліцыя, падатковыя органы, улады...

— Нас прымушаюць рэгістравацца ў якасці прадпрымальнікаў, набываць адпаведную ліцэнзію, якая каштуе каля мільёна, і плаціць падаткі ў залежнасці ад колькасці прададзеных экземпляраў газет. Але ж гэта глупства, ці зможам мы плаціць такія грошы!?.. Што мы заробім?

Газеты («Комсомольскую правду»—«Толстушку», «Имя», «Из рук в руки»...) жанчыны бяруць дробным оптам непасрэдна ў рэдакцыях гэтых выданняў, разлічваючыся, натуральна, сваімі грашамі. «Навар» з аднаго экземпляра складае ад 500 рублёў да 1,2—1,5 тысячы рублёў. Сяброўкі-равесніцы гандлююць толькі адзін дзень — у пятніцу. За «змену» рэальна зарабіць калі 100 тысяч, калі-нікалі — 120. Гэта пры тым, што трэба адстаяць на нагах увесь дзень, прычым у любое надвор'е.

— Чаму б уладам не выдаваць аднаразовыя талоны? Заплаціў у бюджэт пэўную суму — і зарабляй ужо для сябе. Якія з нас прадпрымальнікі?

Відаць, улады так не лічаць, бо, па словах жанчын, міліцыя рэгулярна разганяе старых гандлярак. Апошнім часам яны амаль зусім зніклі з Кастрычніцкай плошчы, Камароўкі.

— Мы ўжо таксама заплацілі па 400 тысяч рублёў штрафу. Газеты звычайна канфіскуюць, нярэдка — проста рвуць («у тых, хто гандлюе цыгарэтамі, забяруць пачак і сабе ў кішэню пакладуць, а навошта ім нашы газеты»). І кажуць — можам яшчэ і на суткі пасадзіць. Таму — хаваемся, бегаем ад іх...

Расхваляваўшыся, жанчыны шкадуюць і сябе, і журналістаў. «Не пішы, бо і табе гэта дабра не прынясе. Мы чытаем газеты і згодныя з тым, што зараз «ад турмы і сумы» не застрахаваны ніхто».

Каб неяк змяніць тэму, цікаўлюся, дзе жанчыны працавалі раней.

— Разам на заводзе Арджанікідзе. Цяпер вось з вышэйшай адукацыяй гандлюем газетамі. А што рабіць, калі ўладкавацца куды зараз немагчыма. Паглядзіце аб'явы — бяруць толькі тых, каму да 40 гадоў.

— Што ж далей рабіць збіраецеся?

— Гэты месяц яшчэ думаем пратрымацца, а на сакавік ужо, бадай, не разлічваем — прагоняць.

І тут жа нацягнута-аптымістычна дадаюць: маўляў, на агароды ў вёску паедзем. У кожнай ёсць па невялічкаму кавалку зямлі, там і будуць зарабляць нешта да пенсіі...

**АД АЎТАРА.** *Наўрад ці трэба тут казаць нешта дадаткова. Людзі не просяць у дзяржавы «лішніх» грошай, а спрабуюць іх зарабіць самі. Пры гэтым ствараюць няхай і не вельмі прыкметны, але зручны для людзей сервіс. Асабіста я, калі ёсць магчымасць адначасова набыць газету ў кіёску ці ў гандляра, заўсёды аддаю перавагу апошняму варыянту. Так, крышачку даражэй, затое — па шляху на працу, хутка, без чаргі. Ды і чалавек не з працягнутай рукой стаіць...*

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### БЕЛАРУСКІ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ КАЛЯНДАР

**18 ЛЮТАГА**

105 гадоў з дня нараджэння (1893-1938) М. І. Гарэцкага, пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў нацыянальнай прозы, літаратуразнаўца, крытыка, фалькларыста, лексікографа.

75 гадоў з дня нараджэння (1923) Л. І. Багдановіча, доктара медыцынскіх навук, прафесара, вучонага ў галіне дэрматавенералогіі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.





### XVIII зімовыя Алімпійскія гульні




### ВЫНІКІ МІНУЛЫХ ВЫХАДНЫХ ДЗЁН АЛІМПІЯДЫ

**14 ЛЮТАГА. Разыграны 4 камплекты ўзнагарод**

***Фігурнае катанне (м)***
1. Ілья Кулік (Расія)
2. Элвіс Стойка (Канада)
3. Філіп Кандэлорэ (Францыя)

***Канькабежны спорт. 500 м (ж)***
1. Катрын Лемай-Дуан (Канада)
2. Сюзан Аух (Канада)
3. Татамі Аказахі (Японія)

***Лыжнае дваябор'е (м)***
1. Б'ярт Энген Вік (Нарвегія)
2. Сампа Лайнен (Фінляндыя)
3. Валерый Сталяроў (Расія)
...42. Канстанцін Каліноўскі (Беларусь)
...43. Сяргей Захаранка (Беларусь)

***Лыжны спорт. Гонка праследавання. 15 км (м)***
1. Томас Альсгард (Нарвегія)
2. Б'ерн Дэлі (Нарвегія)
3. Уладзімір Смірноў (Казахстан)
...26. Аляксандр Саннікаў (Беларусь)
...60 Мікалай Семяняка (Беларусь)

**15 ЛЮТАГА. Разыграны 4 камплекты медалёў**

***Бабслей. Двойкі (м)***
1. Гюнтэр Хубер (Італія)
Антоніо Тартаглія
1. Фрыц Лойдэрс (Канада)
Дэвід Максхорн
3. Хрыстаф Ланген (Германія)
Маркус Цымерман

***Канькабежны спорт. 1000 м (м)***
1. Ідс Постма (Галандыя)
2. Ян Бос (Галандыя)
3. Хіраяшы Шыміцу (Японія)

***Біятлон. 7,5 км (ж)***
1. Галіна Куклева (Расія) — 23.08.0 (1)
2. Урсула Дзізл (Германія) — 23.08.7 (1)
3. Катрын Апель (Германія) — 23.32.4 (1)
...22. Ірына Тананайка (Беларусь) — 24.42.5 (0)
...24. Святлана Парамыгіна (Беларусь) — 24.50.0 (2)
...28. Наталля Мароз (Беларусь) — 25.04.7 (0)
...52. Наталля Рыжанкова (Беларусь) — 26.10.6.

***Скачкі з трампліна. 120 м (м)***
1. Казыошу Функі (Японія)
2. Яні Сойнінен (Фінляндыя)
3. Масахіко Харада (Японія)
...32. Аляксандр Сіняўскі (Беларусь)
...55. Аляксей Шыбко (Беларусь)

**16 ЛЮТАГА. Разыграны 4 камплекты ўзнагарод**

***Лыжны спорт. Эстафета 4х5 км (ж)***
1. Расія — 55.13.5
2. Нарвегія — 55.38.0
3. Італія — 56.53.3
14. Беларусь — 59.13.8

***Гарналыжны спорт. Скарасны спуск (ж)***
1. Каця Зайцынгер (Германія)
2. Перміла Віберг (Швецыя)
3. Флорэнц Маскада (Францыя)

***Гарналыжны спорт. Слалам супергігант (м)***
1. Херман Маер (Аўстрыя)
2. Дзідзье Кук (Швейцарыя)
3. Ханс Клаус (Аўстрыя)
..36. Ігар Юдзін (Беларусь)

***Фігурнае катанне. Танцавальныя пары***
1. Паша Грышчук (Расія)
Яўген Платаў
2. Анжэліка Крылова (Расія)
Алег Аўсяннікаў
3. Марына Анісенка (Францыя)
Гвендал Пайзерат

**Размеркаванне медалёў пасля 11 дзён Алімпіяды (разыграна 47 камплектаў узнагарод)**

| | З | С | С | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. Расія | 8 | 4 | 1 | 13 |
| 2. Германія | 7 | 8 | 7 | 22 |
| 3. Нарвегія | 5 | 7 | 4 | 16 |
| 4. Канада | 4 | 5 | 3 | 12 |
| 5. Галандыя | 4 | 4 | 2 | 10 |
| 6. Японія | 4 | 1 | 3 | 8 |
| 7. ЗША | 3 | 1 | 4 | 8 |
| 8. Аўстрыя | 2 | 3 | 7 | 12 |
| 9. Фінляндыя | 2 | 3 | 3 | 8 |
| 10. Швейцарыя | 2 | 1 | 1 | 4 |
| 11. Францыя | 2 | 0 | 3 | 5 |
| 12. Карэя | 2 | 0 | 0 | 2 |
| 13. Італія | 1 | 3 | 2 | 6 |
| 14. Балгарыя | 1 | 0 | 0 | 1 |
| 15. Кітай | 0 | 2 | 0 | 2 |
| 16. Чэхія | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 17. Швецыя | 0 | 1 | 1 | 2 |
| 18. Данія | 0 | 1 | 0 | 1 |
| 19. Украіна | 0 | 1 | 0 | 1 |
| **20. Беларусь** | **0** | **0** | **1** | **1** |
| 21. Бельгія | 0 | 0 | 1 | 1 |
| 22. Казахстан | 0 | 0 | 1 | 1 |
| *Усяго* | *47* | *46* | *45* | *138* |

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

# ПЯТЛЯ для вучня і настаўніка

***У сакавіку 96-га васьмікласнік Ваня І. павесіўся. Амаль праз два гады ўскоснай прычынай яго смерці прызналі паводзіны завуча школы. Апошні апынуўся за кратамі....***

**Суд над Уладзімірам Краўчанкам ускалыхнуў усю вобласць. Яно і не дзіва: не часта на лаве падсудных аказваецца настаўнік. Пра гэты выпадак ужо пісала і магілёўская абласная, і рэспубліканская прэса. Расказвала пра яго і наша газета. Здавалася б, усё ясна: завуч пабіў вучня, праз колькі гадзін той скончыў жыццё самагубствам. Падсудны факт збіцця адмаўляў і вінаватым сябе не прызнаў, але следства і суд усё ж дакапаліся да ісціны, і злачынцу вынеслі прысуд, прадугледжаны адпаведным артыкулам крымінальнага кодэкса...**

**Але праз колькі дзён пасля публікацыі гэтага матэрыялу ў рэдакцыю з Магілёва прыйшло некалькі пісьмаў, якія выказвалі, мякка кажучы, сумненні ў справядлівасці суда і вінаватасці настаўніка. Каб разабрацца ў справе больш падрабязна, «карэспандэнт выехаў на месца».**

ЗА ТЫЯ ТРЫ ДНІ, што была там, давялося пабыць не ў адным чыноўніцкім кабінеце. І ўсюды — аднолькава: насцярожанасць, нежаданне, каб справа зноў выплыла за межы вобласці. У адным такім кабінеце мне наогул па-бацькоўску параілі: «Адмоўцеся вы ад гэтай справы. Навошта яшчэ нешта капаць, калі так усё вырашана». А потым са стомленай раздражнёнасцю дадалі: «Вось вы, пісакі, нахапаеце ўсяго зверху, а потым робіце свае высновы на эмоцыях, замест таго каб абапірацца на факты...» Што ж, дзякуй яму на добрым слове. Эмоцый тут у кожнага было б шмат, але, карыстаючыся парадай майго высокапасаднага суразмоўцы, я буду абапірацца толькі на факты. Спадзяюся, у чэрствасці мяне ніхто не папракне: не той выпадак...

Значыць, факты — і нічога, акрамя фактаў.

■

Пачыналася ўсё звычайна і проста: некалькі васьмікласнікаў вырашылі не ісці на трэці ўрок. Пасля двух першых урокаў працы, на якіх яны насілі вугаль для кацельні, хлопцы засталіся там у пакоі для адпачынку, каб пагуляць з качагарамі ў карты. За гэтым заняткам і застаў іх завуч, які на той час замяшчаў дырэктара. Пачуўшы: «А ну марш на ўрок!» падлеткі куляй выскачылі з кацельні. А Ваню І. завуч пакінуў: учора ён выклікаў у школу яго бацьку й хацеў высветліць, чаму ні бацька, ні маці так і не з'явіліся. Завуч вывеў хлопца з пакоя адпачынку ў невялікі калідорчык, зачыніўшы за сабою дзверы. Што адбылося за гэтымі дзвярыма, дакладна ведалі толькі двое: завуч і Іван. Качагарам, якія былі ў пакоі, засталося толькі прыслухоўвацца і ўяўляць...

**З паказанняў Віктара ПЕТРАЧЭНКІ, качагара (цытаты паказанняў узяты з «делопроизводства», якое вёў адвакат Анатоль КОНЕЎ):** *«Зайшоўшы ў кацельню, Краўчанка ўзяў за вуха І. Мы следам не выходзілі, але праз дзверы былі чуваць глухія ўдары, было чуваць, што завуч б'е І., быў чуваць плач Івана, ён казаў, што бацькоў няма дома...»*

**З паказанняў качагара ВАСІЛЕНКІ:** *«Краўчанка спытаў у Івана: «Дзе бацькі?», потым узяў за вуха і вывеў з пакоя. Ішла размова на павышаных тонах. Я чуў нейкія глухія ўдары, што гэта былі за ўдары, патлумачыць не магу...»*

Яны наўрад ці ўспомнілі б пра гэты выпадак наогул: тыповы наганяй настаўніка непаслухмянаму вучню, калі б той жа Петрачэнка, ідучы праз пару гадзін з абеду, не знайшоў Ваню ў будынку старой пошты, што насупраць школы. Хлопец вісеў у драцяной пятлі, нават не выняўшы рук з кішэняў.

*«14 сакавіка 1996 года прыкладна ў 13 гадзін быў знойдзены труп вучня 8-га класа Вендаражскай СШ Івана І. Смерць наступіла ад асфіксіі ў выніку павешання»*, — коратка напішуць у міліцэйскай зводцы.

Вось тут і ўспомняць Ваніны аднакласнікі яго нібыта жартам кінутае пасля другога ўрока: «Заўтра я павешуся». Вось тут і прыгадаюць качагары тыя нібыта чутыя глухія ўдары, вось тут і прыйдзе ім у галаву здагадка, ды дзе там — упэўненасць: гэта ж завуч біў Івана галавой аб сцяну! І па Вендаражы панясецца: хлопец павесіўся з-за Краўчанкі...

■

Раённая пракуратура завяла крымінальную справу. На галаве ў хлопца знайшлі «прапітанне крывёю мяккіх тканак у правай цемяннай вобласці, якое магло ўтварыцца ад дзеяння тупога цвёрдага прадмета ці пры ўдары аб яго, даўнасцю каля аднаго дня да моманту смерці». Пасля, праўда, эксперт удакладніць даўнасць — «4—6 гадзін», але аб прадмеце, якім ці аб які ўдарылі, так і не выкажацца: «выказвацца дакладна аб якім-небудзь прадмеце не ўяўляецца магчымым...» Карацей, ясна, што нічога няясна. І ўсё ж следства вядзецца. Апытваюцца вучні, настаўнікі: ці не здзекаваўся завуч з Івана, ці не біў яго пры астатніх, ці не прыніжаў?

**З паказанняў Сяргея ЧУХНОВА, аднакласніка:** *«Я асабіста не бачыў, як Краўчанка біў Івана. Я думаю, што давёў яго да павешання завуч».*

**Сведка ДОНДА (вучань):** *«Завуч мог тузануць Івана за вуха, але не біў. Пасля першага ці другога ўрока Іван сказаў, што заўтра павесіцца...»* (Размова з завучам адбылася на трэцім уроку. — **А. Л.**)

**Вольга МАРОЗАВА, класны кіраўнік:** *«Сведкай канфлікту я не была. Аб прычыне самагубства сказаць не магу...»*

І нават маці, прыбітая горам маці, нічога не магла сказаць: *«Мой сын ніколі не гаварыў аб якіх-небудзь канфліктах з завучам. Аб тым, што завуч яго б'е, таксама ніколі не гаварыў...»*

Справу ўзбуджалі некалькі разоў і нарэшце закрылі, здавалася б, канчаткова: *«У ходзе следства былі дапытаны вучні Вендаражскай школы, праводзіліся гутаркі з навучэнцамі і настаўнікамі з мэтай устанаўлення прамых сведак прымянення насілля завучам Краўчанкам да І. ці іншых вучняў. Аднак аб падобных фактах не паведаміў ніхто.*

*Сабраныя па справе звесткі не пацвердзіліся»* (пастанова аб прыпыненні крымінальнай справы, падпісаная следчым **А. КАРАПЕЦЯНАМ**).

Завучу гэтае здарэнне каштавала строгай вымовы і патрачаных нерваў. Перажываў Уладзімір Леанідавіч, як расказалі мне ў школе, страшна: яшчэ б, Ваня, часта непаслухмяны і няўрымслівы, але неардынарная, цікавая асоба, пастаянны ўдзельнік паходаў, у якія завуч часта вадзіў вучняў, вось так імгненна і бязглузда пайшоў з жыцця...

■

Тут выплывае яшчэ адзін факт. Я не буду ніякім чынам звязваць яго з папярэднімі. Проста сёе-тое ўзгадаю і працытую.

На пачатку новага навучальнага года вучань 9-га класа той жа Вендаражскай школы А. Ярменчык аказаўся замешаным у бойцы. Загінуў чалавек, і супраць удзельнікаў бойкі была заведзена крымінальная справа. У школу дапытваць вучня прыязджае следчы райпракуратуры Н.А. Сіманава. Краўчанка (на той час «яго» справа ўжо прыпынена) прысутнічае на допыце як педагог. У ходзе допыту ён не пагадзіўся з некаторымі метадамі вядзення следства, аб чым і напісаў у пратаколе. Так бы мовіць, узнік канфлікт.

*«У лістападзе 1996 года я звярнуўся ў пракуратуру Магілёўскага раёна па прычыне грубага парушэння следчым Сіманавай Н.А. нормаў крымінальна-працэсуальнага заканадаўства. Аднак ні ў райпракуратуры, ні ў іншых месцах, куды я звяртаўся, праўды я не знайшоў»*, — напіша Краўчанка ў заяве на імя Алега Бажэлкі. І падасць на Сіманаву іск у суд за нанесены маральны ўрон. З Мінска яго заява «па вертыкалі» вернецца ў Магілёў. І, нарэшце, настаўнік атрымае «праўду»: *«Рашэннем ад 20 снежня 1996 года ў іску вам адмоўлена»*. І, увага, наступны абзац: *«Крымінальная справа па факту самазабойства вучня 8-га класа Вендаражскай школы І.І. у цяперашні час накіравана для дадатковага расследавання пракурору Магілёўскага раёна. Пастанова следчага ад 22 снежня 1996 г. аб прыпыненні справы адменена»*. Такую паперу Краўчанка атрымаў у красавіку мінулага года з абласной пракуратуры за подпісам першага намесніка пракурора **А. БАШКОВА.**

Яшчэ невялікі факт, які таксама пакіну без каментарыяў. Бацька Н.А. Сіманавай А. Сушко — супрацоўнік той самай абласной пракуратуры...

■

Так ці інакш, справа закруцілася наноў. Зноў допыты сведак (гэта больш чым праз год пасля здарэння!). Зноў выклікі ў пракуратуру. Зноў тое ж абвінавачанне (арт. 105 КК «Давядзенне да самагубства»). Праўда, дабавіцца яшчэ і арт. 167 ч. 2 («Перавышэнне правоў і паўнамоцтваў, якое суправаджаецца насіллем і прыніжэннем уласнай годнасці...»)

І, як вынік, — суд у лістападзе 97-га. Тыя ж, ужо працытаваныя мною вышэй паказанні. Тыя ж качагары, якія «чулі» і «падумалі» — у якасці галоўных сведак. Прычым Васючэнка на суд не з'явіўся.

*«Раніцай 14 сакавіка 1996 г. качагары былі п'яныя. Ім я ў гэты дзень зрабіў заўвагу і прасіў заўхоза знайсці ім замену пасля выхаду на працу дырэктара школы. На судзе факт аб тым, што качагары былі п'яныя, пацвердзілі настаўнікі Марозава і Куновіч»* (са скаргі асуджанага Краўчанкі ў калегію па крымінальных справах Вярхоўнага суда РБ).

Здаецца, гэты факт павінен быў выклікаць у суддзяў сумненні ў праўдзівасці сведак. І жаданне праверыць, ці чуваць што-небудзь у кацельні за шумам машын наогул. Тым больш, аб гэтым прасілі і падсудны, і яго адвакат. Але... Правядзенне такога эксперыменту следчы А. Карапецян палічыў *«нематазгодным, бо Краўчанка можа змяніць вышыню і тэмбр голасу»* пры яго правядзенні... А старшыня абласнога суда Уладзімір Папянюк прывядзе мне яшчэ адзін «аргумент»: *«Чыю галаву мы знойдзем, каб стукаць ёю аб сцяну пры правядзенні эксперыменту?»*

Паўсюдна ў цывілізаваным свеце прымяняецца практыка: любыя сумненні ці недакладнасці ў паказаннях сведак трактуюцца на карысць падсуднага. Гэты факт я таксама пакіну без каментарыяў. Але дазволю маленькае суб'ектыўнае адступленне. Я была ў кацельні Вендаражскай школы. Там сапраўды шумна. А ў калідорчыку яшчэ і цёмна. Каб штосьці ўбачыць — трэба адчыніць дзверы. Калі зробіш гэта —там няма дзе павярнуцца, а машыны равуць яшчэ гучней... Але ж я не следчы, і не сведка. Гэта так — асабістыя назіранні...

Сведкі паказалі, што пад пахай адной рукі ў Краўчанкі былі кніжкі і журнал. Рухомасць левай рукі ў завуча абмежаваная: траўма з дзяцінства. У правядзенні медыцынскага абследавання суд Краўчанку адмовіў. «У яго дзве рукі. Мог біць любой» — пачую пасля ад аднаго з чыноўнікаў.

**З афіцыйнага заключэння псіхолага Наталлі ІЛЬІНІЧ:** *«Краўчанка неаднаразова дапускаў маральнае і фізічнае прыніжэнне І. Непасрэдна перад самагубствам у іх адбылася бурная размова, было дапушчана фізічнае і маральнае прыніжэнне, якое магло паслужыць прычынай афекту, пад дзеяннем якога І. павесіўся...»* Зноў факт без каментарыя: сп. Ільініч амаль не працавала непасрэдна ў школе, з падлеткамі.

*«Унікнуўшы ў сутнасць справы У. Краўчанкі, якога я добра знаў як свайго студэнта, лічу сваім абавязкам выказаць нязгоду з заключэннем экспертызы, праведзенай Н. Ільініч, якая не мае дастатковага вопыту работы з цяжкімі падлеткамі»*, — напіша пасля **І. САБАЛЮК**, дацэнт кафедры псіхалогіі МДУ, кандыдат псіхолага-педагагічных навук, які абараніў дысертацыю па цяжкаму дзяцінству і 20 гадоў у якасці эксперта ўдзельнічае ў следчай рабоце. І прывядзе абгрунтаваныя аргументы сваёй нязгоды. Толькі яны застануцца незаўважанымі...

І нават наступны факт не пахіснуў упэўненасці слуг Феміды. Час з'яўлення кровападцёка на галаве хлопчыка — *«4—6 гадзін да смерці»*. Павесіўся ён каля 13 гадзін. Размова з завучам адбылася на 3-м уроку, г. зн. з 10.55 да 11.40. Не трэба быць матэматыкам, каб падлічыць, колькі прайшло часу. Але... у суда чамусьці выклікала сумненне дакладнасць заключэння судмедэксперта...

Ужо пасля суда бацька Краўчанкі напісаў заяву ў Мінск, у дзяржаўную службу судова-медыцынскай экспертызы з просьбай удакладніць яшчэ раз даўнасць пабояў па галаве хлопчыка. Адтуль адказалі, што для ўдакладнення патрэбна паўторная экспертыза. *«Назначэнне такой экспертызы ўваходзіць у кампетэнцыю праваахоўных органаў, куды вы можаце звярнуцца з адпаведным хадайніцтвам»*. «Адпаведнае хадайніцтва» тут жа было накіравана. Адказ хутка прыйшоў з абласнога суда. *«На вашу заяву аб назначэнні паўторнай судова-медыцынскай экспертызы паведамляю, што пытанне аб назначэнні можа вырашацца толькі пасля адмены прыгавору, якім ваш сын асуджаны. Падстаў для прынясення пратэсту на прадмет адмены дадзенага прыгавору не знаходжу»*.

Вось яны, лабірынты правасуддзя. Каб правесці экспертызу, трэба адмяніць прыгавор. Прыгавор жа можа быць перагледжаны толькі па выніках паўторнай экспертызы, якую можна правесці толькі адмяніўшы прыгавор, які можна перагледзець толькі... І так да бясконцасці...

Дый нашто яна, тая паўторная экспертыза? Справядлівы суд і без яе невядома якімі намаганнямі ўсё ж *«устанавіў»*, што падсудны *«наўмысна здзейсніў дзеянні, якія яўна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, прадастаўленых яму законам, а іменна... збіў І., нанёсшы яму лёгкія цялесныя пашкоджанні...»* І прыгаварыў: *«Краўчанка Уладзіміра Леанідавіча прызнаць вінаватым у перавышэнні ўлады і службовых паўнамоцтваў у прымяненні насілля ў адносінах да пацярпелага і на падставе ч. 2 арт. 167 КК РБ назначыць яму тры гады пазбаўлення волі ў папраўча-працоўнай калоніі агульнага рэжыму з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкладаннем, тэрмінам на тры гады...»*

■

**Старшыня абласнога суда Уладзімір ПАПЯНЮК**, разгледзеўшы справу, адкажа бацьку падсуднага, што настаўнік стаў *«крычаць на І., а затым узяў за вуха, вывеў у калідор, дзе збіў яго...»* І не толькі бацьку. У інтэрв'ю нашай газеце ён скажа: *«Ваню білі. Гэта самая істотная акалічнасць. Суд не можа грунтавацца на эмоцыях. Толькі факты. А яны такія. У Вані знайшлі кровападцёк. Яго біў в.а. дырэктара галавой аб сценку. Што пацвердзілі сведкі...»*

Ну як тут без эмоцый? Так і хочацца крыкнуць: «Грамадзяне суддзі! Дзе доказы? Хто-небудзь, хоць адна жывая душа, **БАЧЫЛА**, як настаўнік біў вучня?.. Аб сцяну можна стукаць і кулаком, і кнігай. Дзе факты, аб якіх вы ўпарта паўтараеце?»

У размове са мной Папянюк заявіў: *«Мы верым качагарам. У нас не ўзнікла ніякіх сумненняў...»* Даверлівасці нашых суддзяў можна толькі пазайздросціць. Толькі чаму б тады не паверыць падсуднаму, які сваю віну ўпарта адмаўляе?

Нядаўна калегія абласнога суда перагледзела меру пакарання і змяніла тры гады калоніі на чатыры месяцы арышту. Абвінавачанне, гэтак жа як і забарона тры гады займацца педагагічнай дзейнасцю, пакінута ў сіле...

■

Заўважу: я нідзе ні разу не выказала свайго меркавання наконт вінаватасці Краўчанкі. Я проста адзін за адным прыводжу ўсе тыя ж самыя факты, узятыя з крыніц, якія заслугоўваюць даверу...

*«Мы працавалі з Уладзімірам Леанідавічам у адной камандзе. Маё чалавечае меркаванне: ён не мог ударыць вучня, тым больш біць яго галавой аб сцяну»*, — гэта словы дырэктара Вендаражскай школы **Генадзя ЗОТАВА**.

*«Я часта на ўроку, каб дабіцца цішыні, павышаю голас у класе, стукаю кніжкай па стале ці мелам па дошцы. Дык што, атрымліваецца, што той, хто стаіць у калідоры і чуе гэтыя ўдары, можа тут жа заявіць, што я пабіў палову класа? І ратуй мяне Бог, калі пры гэтым у некага з маіх вучняў знойдуць гузак на галаве ці сіняк на спіне, якія яны набілі, напрыклад, на перапынку перад урокам»* (са слоў настаўніка, з якім абмяркоўвала гэты выпадак).

Пасля хвалі публікацый у магілёўскай прэсе з'явіліся шматлікія водгукі.

*«Я не раз бываў з Краўчанкам у цяжкіх, нават крытычных сітуацыях падчас вандровак у гарах і таму не веру, што ён мог збіваць навучэнца. Мне заўсёды здавалася, што вывесці Валодзю з раўнавагі немагчыма. Безумоўна, характар у яго няпросты, але тое, што ён не садыст і не запальчывы неўрастэнік, я магу пацвердзіць і пад прысягай.* ***А. Агееў, дацэнт МДУ****».*

*«Апошнія сем месяцаў перад судом У.Л. Краўчанка працаваў у нашым калектыве і праявіў сябе як граматны, ініцыятыўны педагог. Да ведама: Краўчанка У.Л. па сёння не звольнены з работы.* ***Калектыў Магілёўскага абласнога цэнтра турызму, краязнаўства і экскурсій****».*

*«Яго адрознівалі гуманныя адносіны да дзяцей, дабрыня, вытрымка. Сярод навучэнцаў і педагогаў школы ён карыстаўся павагай і любоўю дзяцей.* ***Настаўнікі СШ № 11 г. Магілёва****».*

■

Бацькі страцілі сына. Ці знойдзеш большае гора? Але яны ні ў якім разе не вінавацілі завуча: не па іх ініцыятыве пракуратура ізноў узбудзіла справу...

Яны не шукалі вінаватага. Мо, адчувалі і сваю віну? І не трэба ім большага пакарання, чым праз усё жыццё — усведамленне гэтай віны.

**З паказанняў маці І.**: *«Бацька, прыходзячы п'яным, біў сына».*

**Вытрымкі са сшытка назіранняў, які вяла класная Вані Вольга МАРОЗАВА:** *«Наведванне дома. Кантроль з боку бацькоў аслаблены. Ступень уплыву: маці — «нуль», бацька — фізічнай расправай... Што горш — быць без бацькоў ці мець такіх, як у Івана?.. Выклік бацькоў? Але няма сэнсу. Бацька паб'е яго, а я не хачу, каб яго білі. Яго нельга біць... Як бы сказаць бацькам, што ён зусім не вучыцца, каб толькі яны яго не білі за гэта? Нерэальная задача».*

**Старшыня сельсавета Яўген РАТНІКАЎ:** *«Я бацьку Івана не раз казаў: чаму твой сын на галаве ходзіць? А ён мне ў адказ: ды я аб яго ўсе рукі збіў, усё роўна не слухае».*

Я зноў адмоўлюся ад каментарыяў. Толькі нагадаю: у той злавесны дзень завуч выклікаў бацькоў Івана ў школу. Следства і суд прыведзеныя факты чамусьці не зацікавілі...

■

Зрэшты, за ўсім гэтым шумам і мітуснёй вакол справы чамусьці абмінулі галоўнае. Загінуў падлетак. Хто вінаваты — аб гэтым можна разважаць доўга. А чатырнаццацігадовы хлопец проста выйшаў са школы, прайшоў некалькі метраў, зайшоў у закінуты будынак і засунуў галаву ў самаробную драцяную пятлю. І ніхто не пацікавіўся, чаму яшчэ да размовы ў кацельні ён паабяцаў павесіцца, не дапамог, не спыніў. Вось у чым галоўная віна дарослых і равеснікаў.

Але калі б за раўнадушша судзілі — не хапіла б ніякіх турмаў, каб пасадзіць вінаватых.

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

*Магілёў—Мінск.*

## ВІНШАВАННІ

*Сардэчна віншуем з нагоды святкавання фарфоравага вяселля* ***Валянціну Антонаўну і Міхаіла Уладзіміравіча АКУЛІКАЎ*** *з в. Аношкі Нясвіжскага раёна. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і дабра.*

**З павагай сын, зяць, дачка.**

*Віншуем* ***Іосіфа Паўлавіча КРЭНЯ*** *з в. Забалоцце Вілейскага раёна з 50-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту.*

**Жонка, дзеці, зяць, унучка.**

*Віншуем з 40-годдзем* ***Аляксандру Аляксандраўну КАЗАК****. «Живи, любимая, сто лет, живи и годы не считай. Не важно, сколько за спиной, душа была бы молодой».*

**Бацькі, родныя,** в. Карані Светлагорскага раёна.

*Дарагую мамачку* ***Алену Мікалаеўну ЗАБАРОЎСКУЮ*** *віншуем з 50-годдзем. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, шчасця ў жыцці.*

**Дочкі Аксана і Света,** г. Мінск.

*Віншуем з днём нараджэння дарагую матулю і жонку* ***Марыю Вікенцьеўну ЧАБАТУЛЬ*** *з Астраўца. Жадаем табе, любая, усяго самага найлепшага, а галоўнае — моцнага здароўя. Будзе здароўе — будзе і ўсё астатняе.*

**Муж, сын.**

*Віншуем з 40-годдзем* ***Валянціну Сямёнаўну ЦУРКО*** *з Азарыч. Жадаем моцнага здароўя, шчасця ў сямейным жыцці, поспеху ў працы, быць каханай і заўжды жыццярадаснай.*

**Сястра Тоня з сям'ёй.**

*Віншуем дарагую мамачку* ***Антаніну Пятроўну ГАВАКА****, якая жыве ў в. Барок Стаўбцоўскага раёна, з 75-годдзем. Жадаем здароўя, бадзёрасці, даўгалецця. Мы заўжды помнім аб табе.*

**Сын Мікалай, нявестка Святлана, унук,** г. Масква.

# БАРЫСАЎСКІ ЗАВОД «ЧЫРВОНЫ МЕТАЛІСТ»

*Наш адрас: 222120, г. Барысаў, вуліца 1 ліпеня, 6, завод «Чырвоны металіст». Тэл. (8-277)—337-52.*



**Дырэктар барысаўскага завода «Чырвоны металіст» Іван ТРУСАЎ:**

## «Мадэрнізацыя вытворчасці, плюс абнаўленне асартыменту прадукцыі, плюс паляпшэнне яе якасці — вось арыенціры выйсця са становішча, у якое трапіла эканоміка дзяржавы»

### Візітная картка завода «Чырвоны металіст»

*Гэта прадпрыемства заснавана яшчэ ў 1911 годзе як акцыянернае таварыства «Калодачна-цвіковая фабрыка». Ужо ў 1929 годзе тут працавалі 260 чалавек.*

*Роўна праз два тыдні(!) пасля вызвалення Барысава ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў прадпрыемства аднавіла сваю вытворчую дзейнасць. Яго рабочыя прынялі самы актыўны ўдзел у аднаўленні моста праз Бярэзіну, разбуранага гітлераўцамі пры адступленні.*

*Вытворчая дзейнасць завода ў мінулым годзе характарызавалася стабільнасцю і ростам асноўных эканамічных паказчыкаў. Рэалізавана прадукцыі на 76 мільярдаў 978 мільёнаў рублёў. Аб'ём вытворчасці ў дзеючых цэнах склаў 74 мільярды 316 мільёнаў рублёў, у супастаўных — 71 мільярд 140 мільёнаў (тэмпы росту ў параўнанні з 1996 годам тут склалі адпаведна 157,5 і 143,8 працэнта). Вытворчасць тавараў народнага спажывання склала ў дзеючых цэнах 28 мільярдаў 500 мільёнаў рублёў (рост у параўнанні з папярэднім годам на 150,5 працэнта).*

*Сярэдняя заработная плата складае на прадпрыемстве 2.600.000 рублёў.*

*За 1997 год заводам атрымана 2237 млн. руб. прыбытку, у тым ліку ад рэалізацыі прадукцыі — 1113 млн. руб., рэнтабельнасць рэалізаванай прадукцыі склала 1,3 працэнта.*

*Структура сабекошту характарызуецца наступнымі паказчыкамі: матэрыяльныя затраты — 65,9 працэнта; з іх сыравіна і матэрыялы — 63,3 працэнта; паліва і цеплаэнергія — 33,5 працэнта.*

*Затраты на аплату працы — 15,4 працэнта; амартызацыя асноўных сродкаў — 13,4 працэнта; адлічэнні на сацыяльныя патрэбы — 5,4 працэнта; іншыя затраты — 4,5 працэнта.*

*У сабекошце падаткі складаюць 7087 млн. руб., або 9,1 працэнта ў агульным аб'ёме затрат.*

*Плацежаздольнасць прадпрыемства характарызуецца наступнымі каэфіцыентамі: абарачальнасць абаротных сродкаў — 3,98 раза, бягучай ліквіднасці — 6,4, забяспечанасць уласнымі абаротнымі сродкамі — 0,7.*

*Разлікі за адгружаную прадукцыю ажыццяўляюцца своечасова. Асноўную ўдзельную вагу складаюць разлікі шляхам заліку часовай запазычанасці — 75 працэнтаў. Камерцыйным структурам водпуск прадукцыі робіцца па папярэдняй аплаце. Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць склала 40 млн. руб. Матэрыялы па ёй перададзены ў судовыя органы.*

*Разлікі з бюджэтам, небюджэтнымі фондамі, за энергарэсурсы, цеплаэнергію, з жыллёва-камунальнымі службамі праводзяцца своечасова.*

*Балансавы прыбытак размяркоўваўся ў наступным парадку: падатак на нерухомасць — 1138 млн. руб., падатак на прыбытак — 297 млн. руб., накіравана ў рэзервовы фонд і на папаўненне ўласных абаротных сродкаў — 281 млн. руб., налічана мясцовых падаткаў 312 млн. руб., утрыманне апарату кіравання — 372 млн. руб.*

*Страты за 1997 год утварыліся па прычыне неплацежаздольнасці ў першым паўгоддзі, у сувязі з гэтым заплачана пені бюджэту 329 млн. руб., штраф за парушэнне цэнаўтварэння — 212 млн. руб., па пратэрмінаванай пазыцы, атрыманай у 1996 годзе, — 101 млн. руб., 163 млн. руб. накіраваны на ўтрыманне апарату канцэрна «Белмясцпрам».*

*На працягу 1997 года завод не прыцягваў у абарот пазычаныя сродкі.*

Слова — дырэктару завода «Чырвоны металіст» Івану ТРУСАВУ:

— Наш калектыў параўнальна невялікі: усяго 450 чалавек працуюць на заводзе. Але гэта ў пераважнай большасці людзі вопытныя, сталыя, як кажуць, загартаваныя. Яны любяць сваю справу, даражаць ёй, умеюць і хочуць працаваць. І ў гэтым, несумненна, адзін з «сакрэтаў» нашых стабільных і нядрэнных для сённяшніх умоў набыткаў.

З прыведзенай вышэй вытворча-эканамічнай характарыстыкі прадпрыемства бачна, што пасля няўстойлівасці і хістанняў, характэрных для некалькіх папярэдніх гадоў, летась наш завод увайшоў у стабільную і трывалую стадыю дзейнасці. Аднак гэта акалічнасць нас, натуральна, ніколькі не супакойвае. Наадварот: працы наперадзе — непачаты край. І ўсе без выключэння завадчане гэта выдатна разумеюць.

Кіраўніцтву завода стратэгічная лінія дзейнасці сёння бачыцца такой: мадэрнізацыя вытворчасці, абнаўленне асартыменту, паляпшэнне якасці прадукцыі, зніжэнне затрат, эканомія энергарэсурсаў! У сваёй штодзённай дзейнасці мы і трымаемся гэтых арыенціраў.

Прэсы, печы, іншае абсталяванне, устаноўленае ў карпусах нашага прадпрыемства, працуе зараз больш-менш зладжана і рытмічна. Аднак гэта зусім не азначае, што вытворчасць не патрабуе абнаўлення і мадэрнізацыі. Знайсці ж сродкі (а па сённяшніх цэнах — вельмі і вельмі вялікія) на набыццё і ўстаноўку новага сучаснага абсталявання пакуль што не ўяўляецца рэальным. Тым не менш, і ў цяперашніх умовах мы можам вырабляць самыя сучасныя тавары народнага ўжытку.

Можам і робім! Наша прадукцыя — а гэта ў пераважнай большасці посуд, сантэхабсталяванне, бляшаныя вырабы — на складах практычна не затрымліваецца. Попыт на яе, як, дарэчы, і рынкі збыту, мы добра ведаем. Больш таго, каб не адставаць ад растучых запатрабаванняў спажыўцоў, імкнёмся як мага больш абнаўляць асартымент вырабаў.

У прыватнасці, у гэтым годзе мы маем намер асвоіць выпуск 26 новых відаў вырабаў. Уяўляеце: адразу ажно 26-ці! Дасканала вывучыўшы спажывецкі попыт, уважліва прыглядзеўшыся да дзейнасці іншых, аналагічных нашаму, заводаў, мы прыйшлі да адзінай высновы: асартымент неабходна як мага хутчэй абнаўляць!

Што гэта будзе за прадукцыя? Калі ласка, пералічу. Гэта — ёмістасці для хімічных прадуктаў, што адпавядаюць еўрапейскаму стандарту, свяцільні — вулічныя, прамысловыя, для грамадскіх месцаў; абагравальнікі для жывёлагадоўчых комплексаў і з плёначным элементам; мыйкі з нержавеючай сталі, некалькі відаў посуду, латкі эмаліраваныя для гандлю, дах кампазіцыйны рыфлёны, ванны, арматура для ўнутранай электраправодкі, дэталі і ўстаўкі для вадасцёкаў, металічныя агароджы, парфумныя карпусы, мэбля металічная і інш.

Такім чынам, асартымент абновім практычна поўнасцю. А каб зрабіць гэта, ужо давялося і давядзецца яшчэ вельмі і вельмі шмат папрацаваць.

За якасць жа прадукцыі, зніжэнне затрат на яе вытворчасць, эканомію энергарэсурсаў змагаемся, як кажуць, агульнымі сіламі, на кожным рабочым месцы. Вынікі гэтага відавочныя: пакупнікі так часта кажуць нам шчыры «Дзякуй!».

Аднак усё сказанае вышэй зусім не азначае, што на прадпрыемстве няма праблем, нявырашаных пытанняў. Ёсць, і іх нямала. Адна з галоўных — сістэма падаткаабкладання ў нашай роднай дзяржаве.

Мясцовыя ўлады пры першай жа магчымасці, не ўдаючыся ў канкрэтныя справы і сітуацыю на тым ці іншым прадпрыемстве, стараюцца як мага больш «накруціць» на нас падаткаў. Вось канкрэтны прыклад. Стаўка падатку на нерухомасць рашэннем Барысаўскага гарвыканкама павялічана сёлета адразу ў два (!) разы. Такім чынам, калі летась наш завод заплаціў 1 мільярд 138 мільёнаў рублёў гэтага падатку, то ў бягучым годзе трэба будзе выкласці ўжо 4 мільярды 700 мільёнаў! У два разы павялічыла падатак дзяржава, яшчэ ў два разы — мясцовая ўлада...

Скажыце: дзе, у якой цывілізаванай краіне магчыма такая абдзіралаўка?!

Але мы не ў крыўдзе, ні на кога не скардзімся. Людзі, паўтараю, хочуць і ўмеюць працаваць. А гэта — галоўнае. Значыць, будуць і новыя набыткі.



На ўчастку зваркі працуюць Т. Мінальд, В. Карнюхова.



Кантралёры АТК Л. Тупік, Н. Тарасевіч, А. Туміловіч.



Траўленне вырабаў даручана вопытным работніцам В. Сахаравай, Н. Аўраменка, А. Дзмітрачонак.



На ўчастку эмаліравання працуюць Т. Цітавец, С. Ляхава, З. Кахнюк, Н. Тарасевіч, В. Малеева, Т. Баско, Л. Чарнуха.

## Яўген МАТУСЕВІЧ:

# «Кожнай дзяржаве патрэбен моцны даследчы і аналітычны цэнтр»

**Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў (ІСПД) пры Адміністрацыі Прэзідэнта быў заснаваны ў адпаведнасці з указам кіраўніка дзяржавы ў кастрычніку мінулага года. Ён ствараўся на аснове добра вядомага ў краіне інстытута Белінфармпрагноз. Таму шмат часу для станаўлення новай даследчай установы не спатрэбілася, і ўжо зараз з'явіліся канкрэтныя вынікі дзейнасці супрацоўнікаў ІСПД. Паводле таго ж указа інстытут быў арганізаваны як «навукова-даследчая ўстанова першай катэгорыі, якая ажыццяўляе інфармацыйна-аналітычнае забеспячэнне дзейнасці дзяржаўных органаў і прадстаўляе Рэспубліку Беларусь у сістэме міждзяржаўнага абмену сацыяльна-палітычнай інфармацыяй краін—удзельніц СНД і ў межах Саюза Беларусі і Расіі». Большасць чытачоў наўрад ці зразумее з такой досыць сухой афіцыйнай фармулёўкі, якія ж рэальныя задачы пастаўлены перад інстытутам. Таму на пачатку размовы з дырэктарам ІСПД кандыдатам філасофскіх навук Яўгенам Матусевічам мы папрасілі перш за ўсё расказаць больш падрабязна пра мэты стварэння і планы дзейнасці ўстановы, якую ён узначальвае.**

— Стварэнне Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў — гэта, па майму перакананню, у нейкай ступені сведчанне ўмацавання суверэнітэту Беларусі і стабілізацыі палітычнай сітуацыі ў краіне. Кожная дзяржава мае ўласны цэнтр стратэгічных даследаванняў і аналізу, таму што кіраўніцтва любой краіны адчувае патрэбу ў навуковым аналізе сацыяльна-палітычнага становішча, у апрацоўцы першаснай інфармацыі, у падрыхтоўцы рэкамендацый для прыняцця канкрэтных рашэнняў і ў распрацоўцы прагнозаў развіцця рэспублікі, уключаючы развіццё палітычнай улады і палітычнай сістэмы, метады вырашэння сацыяльных праблем. ІСПД быў створаны якраз для таго, каб вырашаць гэтыя задачы на беларускай глебе, прычым вырашаць на добрым навуковым узроўні. Зараз у інстытуце працуюць 56 навуковых супрацоўнікаў, з якіх сем дактароў навук і дваццаць адзін кандыдат навук. Інстытут мае цэнтр стратэгічных даследаванняў. Гэтая структура займаецца распрацоўкай асноў унутранай і знешняй палітыкі на доўгатэрміновую перспектыву. Цэнтр рэгіянальных праблем апрацоўвае і рыхтуе аператыўную інфармацыю для кіраўніцтва краіны. Акрамя гэтага ёсць цэнтр сацыяльных праблем і цэнтр інфармацыйна-тэхналагічнага забеспячэння. Словам, асноўныя накірункі сацыяльна-палітычнай праблематыкі мы ахапілі. Дарэчы, эканомікай інстытут не займаецца, паколькі гэтая сфера — прадмет даследавання шэрагу іншых дзяржаўных устаноў. Эканамічную галіну мы можам даследаваць толькі ў той ступені, у якой яна аказвае ўплыў на палітычную сітуацыю ў дзяржаве.

**— Белінфармпрагноз, на базе якога створаны ІСПД, гэта адзіны папярэднік, ці пад вашым дахам аб'ядналіся адразу некалькі ўстаноў?**

— У Белінфармпрагнозе два аддзелы займаліся сацыяльна-палітычнымі даследаваннямі, але было прызнана, што гэтага недастаткова. Патрэбен быў моцны цэнтр, які і быў арганізаваны прэзідэнтам. У практычнай дзейнасці мы выкарыстоўваем тыя напрацоўкі, якія мае айчынная сацыялагічная і паліталагічная навука. Маюцца адпаведныя методыкі, якія дазваляюць апрацоўваць інфармацыю на высокім і дакладным узроўні і прадстаўляць яе ў належным выглядзе кіраўніцтву.

**— Ці не адчуваеце вы ў сувязі з апошняй акалічнасцю, што на нейкім этапе можа ўзнікнуць спакуса выдаваць жаданыя вынікі за сапраўдныя, каб дагадзіць кіраўніцтву?**

— Увесь час і прэзідэнт, і кіраўнік адміністрацыі падкрэсліваюць: вы не бойцеся, друкуйце і прадстаўляйце тую інфармацыю, якая адпавядае сапраўднаму становішчу спраў. І мы робім гэта. Таму што ў сацыялогіі для самога ж сябе вельмі небяспечна займацца фальсіфікацыяй. У рэшце рэшт заблытаешся і не будзеш адрозніваць рэальнасць ад выдумкі. Па-другое, я мяркую, прэзідэнт разумее, што калі яму будзе падносіцца неаб'ектыўная інфармацыя, то яго рашэнні не змогуць стабілізаваць становішча ў краіне і ўмацаваць уладу. Любы палітык ідзе ў палітыку і тым больш становіцца прэзідэнтам для таго, каб заставацца пры ўладзе даволі доўга і цалкам рэалізаваць сваю праграму.

**— Вядомую прымаўку «хто плаціць, той заказвае музыку» можна выкарыстаць і ў сацыялогіі. Знаходзячыся пад уплывам Адміністрацыі Прэзідэнта, наколькі вы залежыце ад палітычных запытаў свайго кіраўніцтва?**

— Плацяць нам якраз нядрэнна. Але плацяць, наадварот, за тое, каб мы не скажалі звесткі, а прадстаўлялі інфармацыю ў тым выглядзе, у якім яна неабходна. Бо калі мы пачнём фальшывіць, то ўзнікне лагічнае пытанне: для чаго патрэбен такі інстытут? Словам, нас за такое проста пакараюць.

**— З боку іншых, у першую чаргу недзяржаўных сацыялагічных цэнтраў, папрокі ў неаб'ектыўнасці ў ваш адрас ужо з'явіліся...**

— Гэта не дзіўна. Карпаратыўнага пачуцця ў сацыёлагаў няма. Яно назіраецца толькі ў межах аднае структуры, дзе людзі працуюць разам. А розныя цэнтры вельмі часта адзін аднаго папракаюць і супярэчаць адзін аднаму вынікамі сваіх даследаванняў. Але ў нас ангажыраванасць назіраецца ў іншым. Мы не рыхтуем даследаванні пад заказ. Мы — прэзідэнцкая структура. І, зразумела, будзем працаваць на тое, каб прэзідэнт заставаўся ва ўладзе і рэалізоўваў сваю праграму. Але гэта не азначае, што мы будзем дзейнічаць на аснове скажонай інфармацыі. Калі, напрыклад, справа дойдзе да прэзідэнцкіх выбараў, то мы, натуральна, будзем працаваць на тое, каб ён быў перавбраны на наступны тэрмін. Але для гэтага неабходна мець якраз абсалютна дакладную інфармацыю, каб не падмануць саміх сябе.

**— З дзеючых зараз навукова-даследчых інстытутаў, на ваш погляд, з якімі ўстановамі вы маглі б супрацоўнічаць?**

— Мы добра ўзаемадзейнічаем з кафедрамі сацыялогіі і паліталогіі Белдзяржуніверсітэта. Загадчыкі абедзвюх кафедраў з'яўляюцца членамі вучонага савета нашага інстытута. Лічу, што якраз гэтыя структуры даволі блізкія нам. Яны найбольш аб'ектыўныя сярод навуковых устаноў. Мы таксама наладзілі плённае супрацоўніцтва з роднаснымі інстытутамі НАН.

**— Як сацыёлаг, як вы ацэньваеце навукова-даследчую дзейнасць той жа лабараторыі «НОВАК», НІСЭПД і некаторых іншых недзяржаўных інстытутаў, што займаюцца сацыялагічнымі даследаваннямі і апытаннем грамадскай думкі?**

— Адразу заўважу, што, у адрозненне ад нас, яны не вядуць пастаянных даследаванняў. Іх «набегі» ў галіну сацыялогіі і паліталогіі выпадковыя. І, наколькі я ведаю, гэтыя несістэмныя даследаванні праводзяцца толькі тады, калі добра аплачваюцца.

**— Вы хочаце сказаць, што якраз у адносінах да іх прымаўка «хто плаціць, той заказвае музыку» спрацоўвае?**

— Я сказаў адназначна...

**Гутарыў Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*Міласэрнасць*

# ЗІМОВЫ САД І ІКОНА

**Тут ужо адбыўся цуд: «заплакала» ікона і вылечыла хворую на рак. Над праектам узялі патранаж прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка і патрыярх Алексій II.**

З вышыні гэта вялікае збудаванне нагадвае форму Крыжа Ефрасінні Полацкай. Зблізку — унікальныя, непаўторныя архітэктурныя канструкцыі. А па зместу будучай дзейнасці — гэта зусім новы асяродак, якога няма пакуль у нас і ў СНД, хоць і мае даволі звыклую назву — Дом міласэрнасці.

— Вось тут будзе зімовы сад, — тлумачыць айцец Фёдар, кіраўнік дэпартамента знешніх сувязяў Беларускага экзархата. — Тут — універсальная клініка, а ў суседніх пакоях — школа для дзяцей-інвалідаў, у якой яны будуць навучацца адраджаць народныя промыслы.

Дом міласэрнасці прыме сто адзінокіх пажылых людзей, сірот, дзяцей-інвалідаў, якія будуць жыць адной хрысціянскай сям'ёй, дапамагаючы адзін аднаму: дзеці — старым, старыя — малым, што дазволіць пажылым асвятліць сваю адзіноту дзіцячай увагай і гарэзлівасцю, а сіротам — атрымаць ласку і падтрымку ўмудроных жыццёвым вопытам людзей. А ўсе яны разам будуць чэрпаць духоўную сілу і падтрымку ў капліцы Дома міласэрнасці і храме, які будуецца недалёка адсюль. Ён называецца Храм-помнік у гонар усіх святых і ў памяць нявінна забітых у Айчыне нашай. Мяркуецца, у ім будзе нязгасная лампада з Ерусаліма.

Будаўніцтва распачата за кошт ахвяраванняў, сабраных у Беларусі і Германіі. На аб'екце працавала моладзь са Злучаных Штатаў Амерыкі. Айцец Фёдар расказаў, што на Радаўніцу сюды завітаў і прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Азнаёміўшыся з планамі і намерамі Дома міласэрнасці, адзначыў, што ён лічыць сваім доўгам садзейнічаць гэтаму праекту, а таму бярэ яго пад свой патранаж. Пабываў тут і патрыярх Алексій II і таксама запэўніў у сваім патранажы.

Айцец Фёдар паведаміў і пра цуд. У час другога богаслужэння «заплакала» ікона Божай Маці «Дзяржаўная», ці, гаворачы больш дакладна, пачала «источать чудо мироточения». Адна бабуля з Брэста, даведаўшыся пра гэта, прыехала сюды з унучкай, каб пакланіцца іконе. Дзяўчынка была моцна хворая. У яе быў рак скуры твару, які ўжо пусціў метастазы ў вочы. І вось пасля таго як яна пабыла ля іконы, знікла страшная хвароба. Ёсць медыцынскія заключэнні аб тым, што ў яе зніклі і метастазы. Бабуля ў знак удзячнасці заказала ў ювеліра залатое вочка, якое прывезла сюды і паклала ля іконы.

Па словах свяшчэннаслужыцеля, Дом міласэрнасці стане прыкладам клопатаў пра чалавека. Ім збіраюцца паказаць, як трэба клапаціцца аб сіротах і інвалідах.

Едуць і едуць сюды знакамітасці і важныя персоны. Днямі тут пабываў саветнік пасла ФРГ у Беларусі Петэр Кольб. Ён прыехаў сюды разам са старшынёй Беларускага камітэта міру Іванам Кірычэнкам, каб абмеркаваць пытанні ўзаемадзеяння ў ажыццяўленні гэтага праекта.

Сустрэча атрымала працяг. Следам сюды зноў завітаў Іван Кірычэнка. На гэты раз з новымі гасцямі з Германіі, кіраўнікамі ўплывовай арганізацыі Маннеарбайт Евангелісцкай царквы Хан-Георг Акермаерам і Вольфгангам Менцэлем. Яны вялі размову аб тым, каб у ходзе Тыдня міру, які пройдзе ў Мінску ў другой палове мая, наладзіць ударную працу на гэтым аб'екце больш як трыццаці нямецкіх удзельнікаў.

Арыгінальны будынак толькі ўзводзіцца, а пра яго ўжо ведаюць у Маскве, Брэсце, Германіі, Амерыцы... Ужо ёсць звыш сотні жадаючых пасяліцца ў ім. Многія старыя гатовы кінуць вялікія гарадскія кватэры і пераехаць сюды. Вось такая прыцягальная сіла Дома міласэрнасці.

**Іван СЯРГЕЕЎ.**

*Памяць*

# Чалавек з легенды

СЯРГЕЮ ПРЫТЫЦКАМУ СПОЎНІЛАСЯ Б 85 ГАДОЎ



**Беларуская зямля падарыла свету нямала слаўных імёнаў. І сярод іх пачэснае месца належыць Сяргею Осіпавічу Прытыцкаму — чалавеку з легенды. У свой час усё прагрэсіўнае чалавецтва паўстала на абарону жыцця юнака, які прама ў зале суда выканаў прысуд здрадніку і правакатару.**

**Прайшоўшы шлях ад беднага сялянскага падворка да самых высокіх камандных вышынь у нашай дзяржаве, Сяргей Осіпавіч стаў поплеч з самымі знакамітымі людзьмі свайго часу. Усё менш застаецца тых, хто ведаў яго асабіста, а тым больш працаваў з ім. І сярод іх — Лізавета Чагіна, былы сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, дарэчы, адна з саўтараў вядомай кнігі пра Сяргея Осіпавіча «Жыццё, аддадзенае народу» (Мінск, «Беларусь», 1987). Сёння мы друкуем яе ўспаміны пра С. Прытыцкага.**

Упершыню пра Сяргея Осіпавіча Прытыцкага я даведалася зімой 1936 года. У мястэчку Трабы Валожынскага павета Навагрудскага ваяводства, як і ў многіх іншых гарадах і вёсках Заходняй Беларусі, прайшла дэманстрацыя і быў арганізаваны збор сродкаў у абарону Сяргея Прытыцкага.

У ім усе мы, дзеці сялян, беднякоў, бачылі чалавека, які змагаўся за нашу будучыню. Разам з дарослымі хадзілі па вуліцах і скандзіравалі: «Свабоду Прытыцкаму!». Гэта працягвалася да таго часу, пакуль паліцэйскія дубінкамі не разагналі дэманстрантаў. З вялікай радасцю сустрэлі вестку аб тым, што Сяргею Прытыцкаму пад напорам народных мас захавана жыццё.

У лістападзе 1939 года мы, навучэнцы Трабскай сямігадовай школы, некалькі разоў перачытвалі выступленне Прытыцкага на сесіі Вярхоўнага Савета СССР, у якім ён ад імя Народнага Сходу Заходняй Беларусі звярнуўся з просьбай да Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР аб'яднаць беларускі народ у адзінай дзяржаве.

На здымку, які надрукавалі тады ва ўсіх газетах, сярод дэлегатаў Заходняй Беларусі Сяргей Осіпавіч быў, бадай, самым маладым. І тое, што менавіта яму даручылі выступіць у вышэйшым органе і ўнесці прапанову аб аб'яднанні, мы тады разумелі як яго вялікі асабісты ўклад у барацьбу за шчасце і свабоду шматпакутных заходніх беларусаў.

З таго часу ў мяне, як і ў многіх іншых равеснікаў, было вялізнае жаданне ўбачыць Сяргея Осіпавіча. Рэальна такая магчымасць з'явілася ў 1954 годзе, калі на Маладзечанскай абласной партыйнай канферэнцыі Сяргей Осіпавіч быў выбраны першым сакратаром Маладзечанскага абкама камсамола. Нам, яшчэ маладым па ўзросту і вопыту работы, было чаму павучыцца ў яго. Прынцыповасць і патрабавальнасць спалучаліся ў яго.

Мне выпала вялікае шчасце працаваць з Сяргеем Осіпавічам у Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР. Будучы ўжо цяжка хворым, Сяргей Осіпавіч вельмі шмат і натхнёна працаваў, і, здавалася, няму мяжы яго жыццялюбству і аптымізму. Ён вучыў усіх работнікаў апарату прынцыповасці, сціпласці, творчым адносінам да падрыхтоўкі законаў. Высокая патрабавальнасць спалучалася з чулымі і ўважлівымі адносінамі да людзей.

8 чэрвеня 1971 года, за некалькі дзён да смерці, ён уручаў узнагароды вялікай групе перадавікоў прамысловасці, доўга гутарыў з узнагароджанымі. На наступны дзень вёў пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Пасля гэтага адбылася задушэўная размова Сяргея Осіпавіча з членамі Прэзідыума па выніках работы сесіі Вярхоўнага Савета БССР сёмага склікання. Гэта было апошняе пасяджэнне з яго ўдзелам. Бо 13 чэрвеня яго не стала.

Сяргей Осіпавіч пайшоў з жыцця ў росквіце сіл. Яму споўнілася толькі 58 гадоў. Гэта была цяжкая і незваротная для беларускага народа страта аднаго з лепшых сыноў, які быў увасабленнем самога подзвігу народа, сапраўды народным героем.

Ён карыстаўся падтрымкай і любоўю народа, выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР, а з 1968 года быў старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Імя Сяргея Осіпавіча Прытыцкага прысвоена вытворчаму аб'яднанню «Азот», калгасам і саўгасам у Бераставіцкім і Маладзечанскім раёнах, школам. Яго імем названы вуліцы ў Мінску, Гродне, Маладзечне, Баранавічах.

# След на роднай зямлі

СЁННЯ СПАЎНЯЕЦЦА 95 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАСІЛЯ ІВАНАВІЧА КАЗЛОВА, ВЯДОМАГА ДЗЯРЖАЎНАГА ДЗЕЯЧА, АДНАГО З КІРАЎНІКОЎ ПАРТЫЗАНСКАГА РУХУ НА БЕЛАРУСІ Ў ГАДЫ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, ГЕРОЯ САВЕЦКАГА САЮЗА.



**Васіль Казлоў — адзін з тых, да жыццёвага крэда якога могуць звяртацца людзі розных пакаленняў і ў наш час, час станаўлення і развіцця Беларусі.**

В. Казлоў — выхадзец з сялянскай сям'і. Сэнс свайго жыцця ён знайшоў у працы і барацьбе: у юнацтве — у працы ў сельскай гаспадарцы, на чыгунцы, потым на гаспадарчых пасадах Старобінскай машынна-трактарнай станцыі, партыйнай рабоце, на высокіх пасадах дзяржаўнай важнасці.

У дні Вялікай Айчыннай вайны я рыхтавалася ў Падмаскоўі для адпраўкі ў тыл ворага. У беларускім штабе партызанскага руху атрымаў параду ўважліва вывучыць матэрыялы камандзіра мінскага злучэння В. Казлова, які прылятаў з партызанскай зоны. У ліпені 1941 года ён быў пасланы па рашэнню ЦК КПБ(б) у варожы тыл, дзе ўзначаліў Мінскі падпольны абкам партыі. У яго групу ўваходзілі І. Бельскі, І. Варвашэня, А. Бондар. Р. Мачульскі, А. Брагін, А. Сцяпанава.

У партызанскім штабе І. Варвашэня, бліжэйшы паплечнік В. Казлова, пазнаёміў мяне са стратэгіяй і тактыкай групы ў пачатковы перыяд барацьбы. Надзвычай важным на акупіраванай ворагам тэрыторыі В. Казлоў лічыў умацаванне штодзённай сувязі з насельніцтвам, паколькі яно было рэзервам партызанскіх радоў, надзейным тылам, крыніцай духоўнай мужнасці змагароў за Перамогу. Насельніцтва давярала свой лёс народным мсціўцам. Прыкладам таму можа быць сям'я Г. Гальчэні — удзельніка грамадзянскай вайны, настаўніка, які ў першыя дні ўзначаліў народную разведку, а яго жонка і дочкі клапаціліся аб быце партызан, а таксама здабывалі каштоўныя звесткі. Неацэннай аказалася дапамога і першай сувязной атрада В. Дзяле́ндзік. Рызыкуючы жыццём малалетняга сына, страціўшы бацьку і брата, яна ніколі не дакарала сябе за сувязь з партызанамі.

У штабе распрацавалі і паспяхова правялі вясной 1942 года рэйд па раёнах Мінскай, Палескай, Пінскай абласцей. Гэтая акцыя гулкім рэхам пракацілася па ўсёй Беларусі, і новая хваля народных мсціўцаў папоўніла партызанскія атрады. Былі ўстаноўлены непасрэдныя кантакты з партыйнымі групамі, падпольнымі райкамамі. Умацавалася ўзаемадзеянне з атрадамі, што і прывяло ў маі 1942 года да стварэння партызанскага злучэння Мінскай і Палескай абласцей пад камандаваннем В. І. Казлова.

Дзякуючы прадбачлівасці В. Казлова ў мінскай зоне быў створаны першы ў гісторыі партызанскага руху аэрадром, які звязаў Беларусь, Украіну, Літву з Вялікай зямлёй.

Вельмі клапаціўся В. Казлоў аб моладзі. Адчуў я гэта на сабе і сваіх таварышах. Маладыя безаглядна імкнуліся да ўдзелу ў баявых аперацыях. Камандзір не ствараў «цяплічных» умоў, але беражліва захоўваў моладзь. У злучэнне з Масквы быў прысланы юнак-радыст Валодзя Феўралёў. Свае абавязкі ён выконваў бездакорна, але гэтага яму было мала — ірваўся на рэйкавую вайну. Толькі дзякуючы асабістым клопатам В. Казлова, які пабацькоўску ставіўся да гэтага хлопчыка-сіраты, Валодзя сустрэў дзень Перамогі.

І пасля вайны Васіль Іванавіч Казлоў працаваў сумленна і плённа. Не выпадкова ў 1948 г. ён быў выбраны Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

В. Казлоў жыў не адным днём. Пры кожнай новай сустрэчы я здзіўляўся яго прадбачлівасці. Тое, аб чым ён клапаціўся ўчора, як правіла, вынікам станавілася сёння. Былыя партызаны і падпольшчыкі ўнеслі вялікі ўклад у новабудоўлі рэспублікі (трактарны, аўтамабільны заводы, камвольны, салігорскі калійны камбінаты і інш.).

След на роднай зямлі В. Казлоў пакінуў глыбокі: не шкадуючы жыцця абараняў Радзіму ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, клапатліва залечваў раны вайны ў народнай гаспадарцы, не складаючы рук працаваў на ўмацаванне эканамічнага, індустрыяльнага фундамента нашай краіны.

**Т. СТРЫЖАК,**
**ветэран Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь.**




*Выпуск № 6 (394)*

**Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

# Адломы і расшчэпы ў садзе

**Дзе растуць дрэвы, там заўсёды адбываюцца нейкія з'явы, якія прадбачыць вельмі цяжка. Непрыемнасці могуць прынесці буры, галалёдзіца, моцныя снегапады з дажджом і невялікім марозам. На галінках вісіць снег, які тут жа ледзянее. Цяжар такі, што галінка не вытрымлівае і адломваецца, трэскаецца, асобныя галіны разрываюць дрэва ў камлі.**

Такую агрэсію прыроды імунная сістэма дрэў прадугледзела. Кожнае з пацярпелых у свой час падлечыцца само. Кара ля раны агрубее і зацягнецца з краёў, нават рашчэпы паступова зрастуцца (хаця і не заўсёды).

Але раслінам можна і дапамагчы. Свежая рана — вельмі небяспечны ўчастак, праз які могуць пранікнуць хваробы. Зімою не вельмі, а ў час вегетацыі надзвычай шпарка. Таму абавязкова апрацаваць такія месцы пілкай, нажом, тапорыкам — зрабіць усё гладкім. Затым змазаць растворам меднага купарвасу (5 г на 5 літраў вады). Добры вынік дае садовы вар. Яго патрымаць у цяпле, каб памякчэў. Да месца будуць фарбы на натуральным алеі. Прымяняць нешта адно.

Вялікія расколіны зноў ачышчаюць, дэзінфіцыруюць тым жа медным купарвасам. Пасля накладваюцца павязкі з матэрыялаў, якія не вельмі расцягваюцца. Можна на ствале зрабіць скразную адтуліну, прымацаваць болт з пракладкамі з двух бакоў і моцна зацягнуць. Дрэва нават не адчуе такой аперацыі. Рана зарасце разам з жалезнымі ўстаўкамі.

Бывае, што вялікая галіна, адломваючыся, цягне за сабою кару. Калі такія раны невялікія, нічога асаблівага не будзе. Але часам пашкоджваецца некалькі дзесяткаў сантыметраў кары штамба. Тут дзейнічаем як пры перасадцы скуры. Адразу ж пасля здарэння (кара не падсохла!) вяртаем яе на месца, моцна абвязваем стужкамі з поліэтыленавай плёнкі. Усе падазроныя месцы замазваем садовым варам. Гэта рабіць абавязкова, бо «хворая» вільгаць, якая пранікне да здаровай часткі, можа загубіць дрэва.

І, вядома ж, бяда павінна вучыць. Таму яшчэ і яшчэ раз пільным вокам агледзьце верхавіну. Усе падазроныя адыходжанні галін ад штамба замацуйце. Калі вельмі вострыя, выражце ці падвяжыце, пастаўце падпору. І абавязкова скідвайце з галін снег, трамбуйце яго ля штамбаў. Выгада такая: птушкі знойдуць на дрэве корм у выглядзе шкодных насякомых, а ўнізе будзе закрыта дарога для мышэй і пацукоў.

# Перапіска з чытачамі

***Уладзіміру МАТУСЕВІЧУ, г. Крупкі.***

З дня публікацыі нашага месяцавага каляндара пасеваў (15.01.98 г.) прайшло нямала часу. Здавалася, ну ўсё, на гэты раз ні званкоў ні пісьмаў не будзе. Але ж не, ваша пісьмо якраз на гэту тэму. Вы прывялі календары чатырох рэспубліканскіх выданняў. І ва ўсіх ёсць адрозненні. Часам істотныя.

Будзем весці размову толькі пра каляндар, змешчаны ў нашай газеце. Яе складальнік — маскоўскі прафесар Фелікс Вялічка. За дзесяцігоддзі — ніводнага сур'ёзнага наракання на яго каляндар! Вы заўважылі, што, акрамя прыведзеных лепшых дзён сяўбы, у асобных табліцах дадзены «параметры» Месяца (маладзік, першая квадра, поўня, апошняя квадра) і праходжанне Месяцам знакаў задыяка. Кожны чытач можа праверыць, ці правільна складзены каляндар. Іншыя выданні гэта ігнаруюць. Чаму — думайце самі. У № 17 нашых «Ураджайных градак» пра ўсё гэта вядзецца падрабязная размова ў заметцы «Як самому скласці месяцавы каляндар пасеваў».

Неўзабаве будзем сеяць памідоры. На сакавік у звяздоўскім календары значацца як лепшыя два дні — 6-га і 7-га. Ні ў адным з астатніх выданняў шостае чысло не ўпамінаецца. Шостага можна смела сеяць насенне на расаду. Але сёмага ўсё ж больш спрыяльны дзень. Восьмага ўжо горшы, бо роўна праз тыдзень зацьменне Месяца, і спадарожнік Зямлі «развітваецца» з Ракам.

Аналагічна па салодкаму перцу. Зноў лепшыя знакі задыяка — Рак, Рыбы, Скарпіён (усе пладавітыя) і быццам бы сумніўны Стралец. Так здарылася, што гэта культура (перац салодкі) выдатна прызвычаілася да Стральца і з неспрыяльнага ён стаў спрыяльным, прадукцыйным. Вядома, толькі для гэтай культуры.

Увогуле пра календары можна сказаць так, як пра тавары вышэйшага гатунку і... так сабе. І вызначаецца гэта не вонкава, а практыкай. Смела сейце-садзіце ў «лепшыя» дні, якія прыведзены. Вядома, агратэхніка заўжды, як кажуць, павінна быць на належным узроўні.

У першай палове сакавіка змесцім каляндар Вялічкі на красавік, май і чэрвень — галоўныя пасяўныя месяцы. Выдадзім і поўны каляндар Вялічкі на вясну і лета. Як і ў мінулыя гады, будзем высылаць яго па пошце.

**Прадаецца насенная бульба 10 сартоў, агуркі, памідоры (у тым ліку вельмі ранніяі). Пісьмо з падпісаным канвертам.**
***247760 В. ПАЗНЯКУ.***
***г. Мазыр, Сацыялістычная, дом 48в.***

**Вышлю па пошце пасля аплаты насенне бульбы (верас, адрэта, беларускі-3, неўскі, сінтэз, расінка, явар, сінявочка, андра, прыор, лорх, агрыя, аксаміт, гранат). Кожны клубень — 3000 руб. Мінімальны заказ — на 60 тыс. руб.**
***231232 ЮКОВІЧУ Іосіфу Вітольдавічу***
***п/а Падольцы, Астравецкі раён Гродзенскай вобласці.***

# Лекі ад многіх хвароб

**Плады шыпшыны спеюць усё лета. Іх не могуць «параніць» нават маразы. Але сушыць трэба толькі здаровыя. У іх самы багаты набор вітамінаў, кіслот і сухіх рэчываў. Прымяняюцца для аздараўлення хворых, якія пакутуюць ад язвы, авітамінозу. Яшчэ выкарыстоўваюцца для лепшага зрастання пераломаў, пры інфекцыйных захворваннях, для паляпшэння сну, для крыватварэння.**

Найбольш вядомы настой пладоў. Тры сталовыя лыжкі высушанай прадукцыі (здробненай) заліць 400 міліграмамі кіпеню. У накрытай каструльцы гатуюць 10 хвілін. Пасля 12 настойваюць, працэджваюць. Піць па трэці шклянкі 3 разы на дзень. «Выганяе» многія хваробы, дае спакой і ўпэўненасць, знімае стрэсы.

Шыпшына асаблівых умоў да глебы не патрабуе. Расце там, куды яе «пашле Бог» ці пасадзіць чалавек. Адзінае патрабаванне — каб не было ценю. А ў астатнім гадуецца як кусты парэчак.

Восенню капаем ямкі ці канаўкі шырынёю да 20—40 см, глыбінёю да 40 см. Напаўняем іх чорнай зямлёй, у якую на 1 кв. метр унеслі 60 г нітрафоскі, ці шклянку попелу і два карабкі суперфасфату. Добра даць гной — 5 кг на той жа кв. метр. А яшчэ да кілаграма даламітавай мукі.

З зарасніку шыпшыны выбіраем двух- ці аднагодкі. Выкопваючы, імкнёмся як найменш пашкодзіць карані (яны вельмі заглыбленыя). Як і ў маліне, абразаем сцябло. Садзім крышачку глыбей, чым расла на сваім месцы, паліваем. Вясною наступнага года вырастае адзін (або два) дубчыкі. Іх падрэжам (зверху) на трэць. На другі год утворыцца дрэўца. На трэці год дасць першы ўраджай (слабы). Толькі з чацвёртага года будзе добрая і дружная аддача. Звычайна на другі год расліна падкармліваецца азотам (салетра, 15 г на квадратны метр). Яшчэ раз дадзім салетру перад наступным сезонам. Дозу давядзём да 25 г. У далейшым шыпшына ўсімі элементамі сілкавання забяспечвае сябе сама. Але каб плод быў большым і ўтрымліваў як мага больш вітамінаў, кіслот і сухіх рэчываў, робяць падкормкі. Хопіць нават шклянкі нітрафоскі на 10 кв. метраў. Уносіць ля радкоў і крыху перакопваць-рыхліць.



777

# НЕ КЛІЧ ЧОРТА.



*Магчыма, ён і так побач*

***Без чартаўшчыны ў нашым жыцці не абыходзіцца. Бывае, пакладзеш рэч у пэўнае месца, праз некалькі секунд павернешся, а яе там ужо няма — быццам бы і не клаў ніколі. Бывае таксама, што ў доме раптам знікаюць, а потым зноў-такі раптам з'яўляюцца відэльцы і нажы або іншы посуд. А яшчэ бывае, што круцішся ў лесе на адным пятачку гадзіну-другую, а дарогу знайсці ніяк не можаш. Потым — бац! — дык вось та яно, выйсце! Толькі і падумаеш: «Сапраўднае насланне!»***

***Ставіцца да прысутнасці ў нашым жыцці розных духаў можна па-рознаму. Але нават калі ставішся да іх як да казачных персанажаў, ведаць іх звычкі і норавы ўсё ж нікому не пашкодзіць. Нездарма ж нашы продкі з аднымі духамі сябравалі, другіх — улагоджвалі, а зносінаў з трэцімі проста пазбягалі. Можа і нам варта да іх прыслухацца?..***

**ДАМАВІК** — стары дзед з сівой барадой і сівымі валасамі. Валодае ўсімі якасцямі добрага гаспадара. Устае ён рана і пужае пеўніка, які сваім крыкам будзіць на працу гаспадароў. Затым ідзе ў амбар і прасушвае хлеб, перасыпаючы яго жменямі, корміць у гумне коней і кароў, гладзіць іх і холіць. Па павер'ях, ад такога догляду дамавіка якасць хлеба паляпшаецца, а жывёла становіцца бадзёрай і вынослівай.

Дамавік любіць дружную сям'ю і не церпіць сварлівых баб. Віноўнікам жа сямейных скандалаў ён ноччу ў час сну навальваецца на грудзі і душыць іх. Калі справы ў доме ідуць добра і не прадбачыцца ніякіх няшчасцяў, дамавік любіць пагуляць: стары дзед пачынае танцаваць на лаве ў хаце або ў сенцах. А ў прадчуванні гора і бяды ён папярэджвае гаспадароў уначы сваім выццём.

Дамавік — дух-заступнік, таму з ім трэба жыць у міры і ўлагоджваць яго, бо ў іншым выпадку ён можа пачаць шкодзіць гаспадарцы. Звычайнае месцазнаходжанне дамавіка — запечны куток або падпечча. Менавіта туды і трэба класці маленькія булачкі, якія выпякаюцца спецыяльна для яго. Калі яны знікаюць, гэта азначае, што дамавік прыняў ахвяраванне.

Існуе цэлы абрад пераводу дамавіка са старой хаты ў новую. У старым жыллі гаспадыня паліць печ, затым выграбае вуглі ў чысты гаршчок, урачыста падымае яго над галавой са словамі «Запрашаем, калі ласка, дзядуля, на новае жыллё!» і пераносіць вуглі ў печ у новым доме. У некаторых мясцовасцях перад закладкай новага дома пад адным з вуглоў пеўню адсякаюць галаву, якую закопваюць тут жа ў зямлю або проста кладуць пад вуглавы камень.

**ЛАЗНІК**, у адрозненне ад дамавіка, «прапісаўся» ў лазні, бо ён вельмі любіць парыцца і мыцца. Для гэтых мэтаў гаспадары спецыяльна пакідаюць яму ваду і венікі. Трэба памятаць, што лазнік — даволі злосная істота. І калі ўдзень ён яшчэ паводзіць сябе спакойна і не хвалюе тых, хто мыецца ў яго доме, то ўначы ён не церпіць ніякіх наведвальнікаў. У тых, хто затрымаецца ў лазні, ён пачынае кідаць з печы камяні, каб забіць нахабнікаў.

**КАНЮШНЕВЫ ДАМАВІК** — стары касматы чалавек з конскімі капытамі і вушамі — адзін з самых папулярных тыпаў хатніх духаў. Ён апякуецца коньмі, аберагае іх ад хвароб. Для яго ў канюшнях і хлявах робяць асобныя маленькія яслі і набіваюць іх сенам. Тут ён робіць сваё гняздо. Сена ж з яго ясляў лічыцца гаючым і яго даюць, напрыклад, каровам, якія ацяліліся.

А вось **ХЛЕЎНІК,** наадварот, псуе жывёлу: па начах ён ездзіць на конях і каровах. Каровы бегаюць па хляве, рыкаюць, хутка худзеюць і перастаюць даваць малако. Коні таксама слабеюць ад вар'яцкай язды і могуць з часам акалець. Яны б'юцца, спрабуюць скінуць хлеўніка, але гэта ім не ўдаецца. Калі ж у гэты час у хлеў заходзіць гаспадар, ён нічога не бачыць акрамя ўпараных жывёл. Такім чынам становіцца зразумелым, чаму ад хлеўніка, як толькі знаходзяць сляды яго прысутнасці, адразу жадаюць пазбавіцца. Хлеўнік чамусьці баіцца сарокі, таму дасведчаныя людзі і вешаюць яе над дзвярыма канюшні.

Над лясамі і ляснымі жывёламі гаспадарыць **ЛЯСУН** або **ЛЕСАВІК**. Месца яго жыхарства — лясныя нетры. Логава лесавіка акружаюць бураломы і непраходныя балоты, якія не замярзаюць нават у самыя суровыя зімы. Уся буйная жывёла ідзе туды паміраць, бо толькі ім вядомы патаемныя сцежкі.

Лесавік можа змяняць свой рост у адпаведнасці з ростам лясных дрэў. Калі лясны дух разгульвае па сваіх уладаннях, яго суправаджаюць статкі жывёл і чарада птушак: совы, пугачы і сарокі. Лесавік любіць старыя сухія дрэвы, асабліва вербы, таму сяляне пазбягаюць іх секчы, каб не выклікаць гнеў гаспадара.

Калі лесавік вясёлы — ён смяецца, калі сумны — вые воўкам, а калі злы — раве, як мядзведзь. У руках ён трымае вялікую дубіну, якой ударае па дрэвах — ад гэтага ў лесе стаіць гул. Лясны дух рэдка з'яўляецца людзям, звычайна ён толькі пужае іх сваім свістам і рогатам. Лесавік наўмысна збівае са шляху падарожнікаў і заманьвае іх у самыя нечаканыя і непрыемныя месцы. Для гэтага ён, напрыклад, перастаўляе з месца на месца дарожныя знакі, таму жыхары ляснох мясцовасці звычайна арыентуюцца па якому-небудзь прыкметнаму дрэву. Пад выглядам знаёмага за размовамі лесавік таксама можа завесці чалавека з дарогі ў дрыгву, а потым раптам знікнуць. Толькі па д'ябальскаму рогату і свісту становіцца зразумелым, чыя гэта справа.

У лесе людзі, памятаючы, што з'яўленне лесавіка заўсёды суправаджаецца бурай, старанна пазбягаюць усяго, што яе нагадвае, напрыклад, свісту. А то не дай Божа адклікнецца лясны гаспадар і прыйдзе ў суправаджэнні віхуры.

Паляўнічыя прыносяць у ахвяру яму акраец хлеба ці блін, папярэдне добра іх пасаліўшы. Некаторыя з іх частуюць ляснога волата махоркай, якую падносяць яму ў выглядзе лістоў тытуню. Бывае, што і першая здабыча пакідаецца ў лесе як ахвяра мясцоваму гаспадару.

Кожная крыніца, рака ці возера маюць свайго **ВАДЗЯНІКА**. Яго ўяўляюць касматай істотай з зялёнай барадой, аблепленай цінай. Многія лічаць яго самым злым з усіх нячысцікаў і прыпісваюць яму ўсе няшчасці на вадзе: гэта ён перакульвае лодкі, размывае плаціны, палохае скаціну ля вадапою, заваблівае тых, хто купаецца, у небяспечныя месцы. Тапельцаў вадзянік страшэнна душыць, таму, як мяркуюць у народзе, іх трупы такія раздутыя і сінія. Задушыўшы чалавека, вадзянік дастае яго душу, а цела проста кідае, і яно ўсплывае на паверхню. Здараецца, што вадзянік асядлае ў вадзе каня ці карову, і няшчасная жывёліна пад яго цяжарам ідзе на дно. Каб пазбегнуць такога няшчасця, сяляне, калі пераганяюць жывёлу праз раку, папярэдне робяць на вадзе крыж нажом ці касою.

У вадзе жывуць таксама **РУСАЛКІ**. Праўда, праводзяць там яны час толькі з восені да «русальнага тыдня» (першы пасля Троіцы). Затым яны выходзяць з вады і селяцца на галінках дрэваў. Асабліва ім падабаюцца бярозы. Русалкі калыхаюцца на іх галінках і заклікаюць праходжых. Тых, хто мае глупства да іх наблізіцца, могуць заказытаць ажно да смерці. Пакуль жа русалкі не выйдуць з вады (г. зн. да «русальнага тыдня») купацца лічыцца небяспечным, таму што ці хвароба якая здарыцца, ці русалкі зацягнуць да сябе на глыбіню смельчака і ўтопяць. Існуе павер'е, што ў русалак пераўтвараюцца тапельніцы душы дзяцей, памерлых яшчэ да хрышчэння і дзяўчаты, якія памерлі да шлюбу або на русальным тыдні.

Аднак сапраўдным увасабленнем зла ў народным разуменні з'яўляецца **ЧОРТ**. Калі вадзянік або лесавік могуць рабіць зло, а могуць і не рабіць яго, то натура чорта проста не дазваляе яму не паскудзіць людзям. Ён так і чакае моманту, каб загубіць душу чалавека. Асабліва моцны чорт, калі воля чалавека прытупленая, а свядомасць няясная, напрыклад, калі ён п'яны. Тады чорт з'яўляецца перад ім у сваім сапраўдным абліччы: з рагамі на галаве, з казлінаю бародкаю, з капытамі замест ног, хвастом і целам, пакрытым шэрсцю.

Найбольш магутнымі лічацца гарбатыя і кульгавыя чэрці, бо, згодна з паданнем, калісьці яны ваявалі з анёламі і былі скінуты апошнімі з неба на зямлю: пры падзенні найбольш вялікія і цяжкія з іх паламалі ногі і набілі гарбы. Акрамя таго, у нябесных войнах многія з іх атрымалі цяжкія раны і пакалечыліся.

Трэба памятаць, што чорт любіць збіваць падарожнікаў з дарогі, скідваць колы з восі ў час язды, заводзіць у дрыгву п'яных, уносіць разлад у дружныя сем'і. Чорт не супраць зносінаў са звычайнай зямной жанчынаю, але ад такога «кахання» на свет з'яўляюцца выродкі і пачвары, якія адразу пасля нараджэння з віскатам і рогатам знікаюць.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 84.118. Індэкс 63850.
Зак. № 885.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12